


Фотарэпартаж нашага карэспандэнта Анатоля Яўхімавіча аб красавіцкіх падзеях 1991 года ў Менску чытайце на 29 б.

❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖

# Polacak

Published with the financial support of parish
Mother of God of Zyrovicy,
Cleveland, Ohio, USA.

Друкуецца пры фінансавай дапамозе царквы Жыровіцкае Божае Маці, Беларускай Аўтакефальнай Праваслаўнай Царквы, г. Кліўленд, штат Агаё.



Прозвішчы падпішчыкаў і ахвярадаўцаў рэдакцыя
будзе публікаваць у часопісе.

All correspondence shoud be adressed to:
S.Belaia or M.Bielamuk,
10915 Lake Rd., Cleveland, Oh. 44102, USA.
Tel. (216) 651-3451

❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖❖

# Зьмест



**Янка Салавянюк.** Мастацкае афармленьне вокладкі, ілюстрацыі да артыкулаў «Беларусізацыя», «Максімава Яраславія», «Сьвечкі на Дзяды».

**На першай бачынцы вокладкі:** эскіз іконы Жыровіцкай Божай Маці, якая знаходзіцца ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе. Мастак Янка Салавянюк.

# Вытокі нацыянальнай сьвядомасьці

Анатоль Белы

Найбольш ярка працэс фарміраваньня нацыянальнай самасьвядомасьці беларускага народу праявіўся ў часы паўстаньня ў Беларусі ў 1863 г. Яно выклікала ўздым рэвалюцыйнай публіцыстыкі, спрыяла зьяўленьню найбольш значных мастацкіх твораў. Сярод удзельнікаў паўстаньня знаходзіліся Вінцэнт Дунін—Марцінкевіч, Францішак Багушэвіч, Арцём Вярыга-Дарэўскі, Юльян Бакшанскі і іншыя. Паўстаньне дало магутны штуршок разьвіцьцю нацыянальнай самасьвядомасьці. У беларускую літаратуру прыйшлі нацыянальныя пісьменьнікі: Францішак Багушэвіч, Янка Лучына, Альгерд Абуховіч, Фэлікс Тапчэўскі, Адам Гурыновіч, Марыя Косіч. Але, бадай, самым яркім прадстаўніком рэвалюцыйнай дэмакратычнай думкі тагачаснай Беларусі быў Кастусь Каліноўскі. Яго «Мужыцкая праўда» — першая нелегальная газэта, што зьвярнулася непасрэдна да беларускага селяніна на яго мове, зьяўляецца сапраўдным узорам публіцыстыкі.

---------------------

Заканчэньне. Пачатак у №2.

Дзейнасьць Каліноўскага —яркі паказчык абуджэньня нацыянальнай самасьвядомасьці беларускага народа й адначасова актыўны каталізатар гэтага абуджэньня. Яна ўнесла значны ўклад у разьвіцьцё беларускай літаратурнай мовы, рэвалюцыйнай публіцыстыкі, беларускай дэмакратычнай прэсы, паэзіі.

Вялікую цікавасьць уяўляе дзейнасьць рэвалюцыйнага гуртка, арганізаванага ў Пецярбургу студэнтамі-выхадцамі з Беларусі. Восеньню 1881 г. яны стварылі беларускую фракцыю, якая далучылася да партыі «Народная воля», разгарнулі актыўную выдавецкую дзейнасьць— выдавалі брашуры, часопіс «Гоман». Найбольш значнае месца ў публіцыстычных і тэарэтычных артыкулах займалі праблемы нацыянальнай сьвядомасьці беларускага народа. Па ідэйнаму зьместу выданьні былі неаднароднымі: адны—чыста лібэральныя, другія— народавольскія, трэція стаялі на пазыцыях «навуковага сацыялізму».

Упершыню ў гісторыі нацыянальнай думкі ў другім нумары «Гомана» ад 15 лістапада 1884 г. быў зьмешчаны артыкул, прысьвечаны як тэарэтычным пра-

блемам, так і практычнаму фарміраваньню нацыянальнай самасьвядомасьці беларусаў. Неабходна адзначыць высокі ўзровень артыкула, глыбіню распрацоўкі пастаўленых праблем, веданьне жыцьця.



Цётка. Мастак Я.Ціхановіч

*«Навошта, —пісаў аўтар,— ў імя патрыятызму адна нацыя будзе зьнішчаць іншую, калі ў выніку барацьбы пацерпіць і тая, і другая ў асобе простага народа і павялічыцца магутнасьць і сіла драпежнікаў, якія разаграваюць народны антаганізм?»* [1]

Што датычыць Беларусі, —аўтар лічыць,—то яе народ адчувае сваю арганічную сувязь і адрозьнівае свае інтарэсы ад інтарэсаў польскіх і вялікарасейскіх, што вельмі часта гэтыя інтарэсы ўзмацняюцца эканамічным антаганізмам, у прыватнасьці ўспамінамі аб прыгоньніцкім праве.

Аўтар выказвае крэда беларускай групы нарадавольцаў: *«Мы, беларусы, павінны змагацца ў імя мясцовых інтарэсаў беларускага народа і фэдэратыўнай аўтаноміі краіны: мы, рэвалюцыянеры, таму што, падзяляючы праграму барацьбы «Народнай волі», лічым неабходным прыняць удзел у гэтай барацьбе.* [2]

У кансалідацыі беларускай нацыі, росьце яе самасьвядомасьці значную ролю адыграла рэвалюцыя 1905—1907 гг. Яшчэ раней на базе асьветніцкіх гурткоў Вільні, Гародні, Менска пад назвай «Беларуская рэвалюцыйная грамада» ў 1903 г. была ўтворана нацыянальная партыя леванародніцкага напрамку. На сваім першым з'ездзе ў снежні 1903 г. у Вільні яна атрымала назву «Беларуская сацыялістычная грамада». Праграма БСГ уключала асноўныя дэмакратычныя патрабаваньні, у тым ліку краявой аўтаноміі Беларусі.

Тры патокі вызваленчага руху зьліліся ў рэвалюцыі — рабочы, сялянскі і нацыянальны. Адметнай асаблівасьцю было тое, што нацыянальнае пытаньне было падпарадкавана галоўнаму—аграрнаму. Нацыянальна—вызваленчы рух цесна пераплятаўся з сацыяльным—антыпрыгонным. Галоўнай рухаючай сілай была не буржуазія, а

сялянства, якое, змагаючыся за вырашэньне аграрнага пытаньня, у той-жа час змагалася і за нацыянальнае вызваленьне.

У выніку рэвалюцыйнага напору народных мас царскі ўрад вымушаны быў пайсьці на ўступкі і маніфэстам 17 кастрычніка 1905 г. дазволіў стварэньне нацыянальных партый, выданьне друкаваных органаў на нацыянальнай мове.

Піянерамі беларускай пэрыёдыкі сталі «Наша доля» і «Наша ніва». Першая на пятым нумары была забаронена царскімі чыноўнікамі за адкрыта рэвалюцыйны зьмест. А другая, хоць і зь вялікімі цяжкасьцямі, выходзіла да 1915 г.

Менавіта «Наша ніва» дала магчымасьць сфарміравацца такім беларускім пісьменьнікам, як Максім Гарэцкі, Цішка Гартны, Зьмітрок Бядуля, Канстанцыя Буйло, Алесь Гурло. Дзякуючы газэце сталі шырока вядомы імёны Янкі Купалы, Якуба Коласа, Максіма Багдановіча, Цёткі, Вацлава Ластоўскага, Івана й Антона Луцкевічаў, Сяргея Палуяна і многіх іншых дзеячоў беларускай культуры.

Калі беларуская літаратура XIX ст. аказвала яшчэ слабы ўплыў на нацыянальную самасьвядомасьць беларускага народу, дык літаратура пачатку XX ст. пачала хутка абуджаць яго сьвядомасьць, аказваць уплыў на фарміраваньне беларускай нацыі.

Толькі ў 1910 г. у «Нашу ніву» напісалі 960 карэспандэнтаў з 489 вёсак і мястэчак. Да газэты цягнуліся так, як некалі «шли в Запорожскую Сеч», пісаў былы рэдактар газэты А.М. Уласаў.[3]



Е. Карскій.

У Вільні, Пецярбургу, Менску ўзьніклі беларускія выдавецкія таварыствы: «Загляне сонца і ў наша аконца», «Наша хата», «Беларускае Выдавецкае Таварыства», выдавецтвы «Нашай Нівы», «Homana», «Bielarusa», Антона Грыцкевіча, «Саха» і «Вясёлка» і іншыя. На думку С.Александровіча, яны ў 1907—1916 гг. надрукавалі 179 кніг на беларускай мове тыражом ня меньш як 286 тыс. экзэмпляраў.[3]

Разьвівалася культура. У Вільні быў заснаваны Беларускі музычна-драматыч-

ны гурток. (Яго пачынальнікам, арганізатарам, рэжысёрам, дырэктарам і драматургам быў Ф.Аляхновіч). Ім былі пастаўлены п'есы «Модны шляхцюк» К.Каганца, «Як яны жаніліся» А.Валодзькі, абразок Э.Ажэшкавай «Хам; «На вёсцы», «Бутрым Няміра», «Манька», «Базылішак», «Калісь» — Ф.Аляхновіча і іншыя. 3 кастрычніка 1916 пачаліся меньш рэгулярныя ва ўмовах вайны спэктаклі.

Распаўсюджваньню нацыянальнай культуры сярод мас садзейнічалі «белорусские вечеринки», якія дзейнічалі ў Вільні, Гародні, Полацку, Слуцку і інш.

Нараджэньне беларускай нацыянальнай прафэсіянальнай культуры і навукі зьявілася вынікам кансалідацыі нацыі. Яна была накіравана на нацыянальны прагрэс і ў першую чаргу — умацаваньне нацыянальнай самасьвядомасьці. У другой палове XIX — пачатку XX стст. зьяўляюцца фундамэнтальныя працы І.І.Насовіча, Ю.Ф.Крачкоўскага, М.Е.Нікіфароўскага, П.В.Шэйна, Е.Р.Раманава, М.Фэдароўскага, М.В.Доўнар-Запольскага, Е.Ф.Карскага й інш. Яны дастаткова поўна характарызавалі матэрыяльную і духоўную культуру беларусаў, іх гісторыю, мову, літаратуру, ставілі пытаньні этнагенезу.

Важным паказчыкам росту этнічнай самасьвядомасьці зьяўляецца ўсё больш актыўнае ўжываньне назвы «Белоруссия» і этноніму «белорусы». Так, фальклёрна-этнаграфічныя зборнікі І.І.Насовіча, П.А. Бяссонава, П.В.Шэйна, М.Е. Нікіфароўскага носяць назвы «Белорусские песни», «Белорусские частушки» і г.д. Шматтомная праца Е.Р.Раманава называецца «Белорусский сборник», а фундамэнтальная праца Е.Ф.Карскага — «Белорусы».

Характэрна, што этнонім «белорусы» у канцы XIX — пачатку XX стст. канчаткова выцесніў усе іншыя агульныя для Беларусі назвы. Нават у тых рэгіёнах, дзе замацаваўся этнонім «литвины», да яго далучыўся этнонім «белорусы» (литвины— белорусы) [4]. Хаця існавалі рэгіянальныя назвы —«палешукі», «пінчукі», «брашчане», а таксама захоўваўся назоў «тутэйшыя». Вырасла нацыянальная самасьвядомасьць значнай часткі насельніцтва, якая раней уяўляла сябе палякамі па прычыне рэлігійнай прыналежнасьці. У канцы XIX ст. многія зь іх сталі лічыць сваёй роднай мовай беларускую. Колькасьць «палякаў» паменшыўся з 289 тысяч да 130 тысяч чалавек.

Вялікая роля ў фарміраваньні нацыянальнай самасьвядомасьці беларускага народа належыць публіцыстыцы. У гэтым яна бачыла сваё грамадзянскае і нацыянальна-патрыятычнае прызначэньне. Напрыклад, Янка Купала, будучы рэдактарам «Нашай нівы», пісаў у ар-

тыкуле «А ўсё-ж такі мы жывём»: *«Будзіцца самапачуцьцё народнае, падымае старонка наша свае вочы к сонцу і распрастоўвае свае магучыя плечы. Мілаваньне свайго роднага слова, сваёй ядынай бацькоўшчыны Беларусі бярэ верх над адступніцтвам і прадажніцтвам сябе ў чужую няволю... Выходзіць у сьвет колькі беларускіх газэт, друкуюцца кожны год дзесяткі кніжнак розных названьняў, закладаюцца беларускія выдавецкія суполкі, кнігарні і т. п. Усё гэта робіць сам народ, ці сваёй шчырай працай для Бацькаўшчыны, ці сваімі запрацаванымі капейкамі, аддаванымі на беларускія газэты, кніжкі. Мы не знаем ні казённых падачак, ні купленых працаўнікоў. Працуем для ідэі і будуем самі сабе новае, лепшае жыцьцё. Дык працуйма-ж далей! Сейма на роднай зямельцы здаровыя зярняты праўды, брацтва і свабоды, будзіма жывога народнага духа з магутнымі клікамі : к сонцу і праўдзе!*[5]

У другім сваім артыкуле «Вера і нацыянальнасьць» Янка Купала пісаў: *«Беларусу- католіку ўгаварваюць, што раз ён католік: то ён—паляк, і не павінны братацца з тым, хто іншай веры: беларусу —праваслаўнаму кажуць, што раз ён праваслаўны, то ён —расіец, і католіка-беларуса павінен сьцерагчыся, бо ён паляк. І што з гэтага выходзіць? Расьце нязгода, расьце нянавісьць — рэчы, ніколі не патрэбныя, апрача хіба ворагам нашага народа».*[6] Мы бачым, што лепшыя прадстаўнікі беларускай літаратуры і культуры выступалі супраць нацыянальнай абмежаванасьці і варожасьці, за зьядnаньне народа.

Такім чынам, эвалюцыя нацыянальнай самасьвядомасьці беларускага народа даволі складаная, часам драматычная. У 1918 г. яна сфарміравалася, прынамсі, у большай частцы насельніцтва. Разуменьне гэтага працэсу мае вялікае значэньне для нас, нашчадкаў, і будучых пакаленьняў.



---

1. Публицистика белорусских народников. — Мн.,Изд. БГУ им.В.И.Ленина,1983, б.109.
2. Там жа. б. 120.
3. Г.Каханоўскі. Адчыніся таямніца часу. —Мн., «Мастацкая літаратура», 1984. б.147.
4. С.Александровіч. Гісторыя і сучаснасьць.—Мн., 1968, б.207—208.
5. Этнаграфія беларусаў.— Мн., Выд «Навука і тэхніка», 1985, с.164.
6.Янка Купала. Збор твораў.—Мн., «Навука і тэхніка», 1976, т.7, б.207—208.
7. Там жа. б. 217.

# 25 сакавіка 1918 г. у гісторыі самавызначэньня Беларусі

Вадзім Круталевіч

Ва ўмовах галоснасьці і палітычнага плюралізму гэта дата стала прадметам павышанай увагі друку, навуковых публікацый. Аб ёй гавораць на мітынгах і ў парлямэнцкіх дыскусіях. 25 сакавіка называюць днём незалежнасьці, днём свабоды, вялікай вехай у гісторыі барацьбы беларусаў за сваю сувэрэнную дзяржаўнасьць.

Што-ж тады здарылася 73 гады назад? У гэты дзень Рада Беларускай народнай рэспублікі, як паведамілі газэты, «пасьля спрэчак і бясконцых прамоў» прыняла сваю 3-ю Устаўную грамату, якая аб'явіла Беларусь «незалежнай і вольнай дзяржавай».

Тры дэкларацыі: «1-я Устаўная Грамата да народаў Беларусі» ад 21 лютага, «2-я Устаўная грамата да народаў Беларусі» ад 9 сакавіка і «3-я Устаўная грамата Рады Беларускай Народнай рэспублікі» ад 25 сакавіка 1918 г., развіваючы ідэю аб палітычных і сацыяльна-эканамічных асновах беларускай нацыянальнай дзяржавы, нарматыўна вызначылі важнейшыя палажэньні аб дзяржаўным і грамадзкім ладзе Беларусі, уласнасьці на зямлю й яе нетры, тэрыторыі рэспублікі, вярхоўным органе ўлады, правах і свабодах грамадзян, статусе нацыянальных меньшынств.

У першай грамаце гаварылася аб стварэньні да скліканьня Установчага сойма Беларусі часовага органа ўлады (ім стаў Выканаўчы камітэт Савета Беларускага з'езду, які быў распушчаны савецкімі ўладамі Заходняй вобласьці 18 сьнежня 1917 г.) і стварэньні часовага ўрада —Народнага сакратарыята Беларусі, які павінен мець на мэце «абарону і зацьверджэньне заваёваў рэвалюцыі».

Другая грамата зьмяшчала заяўленьне аб важнейшых характарыстыках абвешчанай дзяржаўнасьці. Грамата абрысоўвала тэрыторыю БНР у межах расьсяленьня і колькаснай перавагі беларускага народу. Хаця ў дакумэнце і не гаварылася аб сувэрэннасьці абвешчанай рэспублікі, але гэта вынікала зь яго зьместу, структуры верхняй улады і кіраўніцтва. Канчатковыя рашэньні па ўсіх важнейшых пытаньнях дзяржаўнага ладу мусіў прыняць Установчы сойм, скліканьне якога плянавалася на бліжэйшы час.

Трэцяя грамата, як-бы падводзячы вынік акта нацыянальна-дзяржаўнага самавызначэньня, давала адказ на пытаньне аб характары ўзаемаадносінаў паміж БНР і Расіяй, ад якой дзяржаўна абасобілася Беларусь. У грамаце заяўлялася аб поўнай самастойнасьці Беларускай народнай рэспублікі, і тым самымськідвалася «апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край». Поўная дзяржаўная незалежнасьць не азначала, што павінны быць прэрваныя ўсялякія ўзаемаадносіны з Расіяй. Прыпушчалася, што Устаноўчы сойм выкажацца аб форме дзяржаўных, дакладней міжнародна-прававых, сувязей Беларусі і Расіі, таксама Беларусі зь іншымі дзяржавамі.



Першы Ўрад Беларускай Народнай Рэспублікі. Народны Сакратарыят(Н.С.). Сядзяць злева: А. Бурбіс (маскоўскі консул), І. Серада ( Н.С.Гаспадаркі), Я.Варонко (Старшыня і Н.С. Замежных спраў), В.Захарка (Н.С. Скарбу). Стаяць: А.Смоліч (Н.С. Асьветы), П.Крачэўскі (Н.С.Кантролю), К.Езавітаў (Н.С. Вайсковых Спраў), А.Аўсянік (Сябра Н.С.) Л.Заяц (Сакратар Н.С.)

Мастак **Уладзімір Жук.**

Трэцяя грамата заяўляла аб намеры ўрада БНР паставіць пытаньне перад зацікаўленымі дзяржавамі, аб пераглядзе той часткі Брэст-Літоўскага мірнага трактата, якая датычылася Беларусі, і самастойна падпісаць мірнае пагадненьне з адпаведнымі бакамі, так як трэція дзяржавы не маюць права вырашаць лёс Беларусі.

Перагляд мірнага дагавору павінен быў даць магчымасьць для аб'яднаньня ў адзінае дзяржаўнае цэлае ўсе тэрыторыі зь перавагай беларускага насельніцтва. Меліся на ўвазе: Магілеўшчына, беларускія часткі Меншчыны, Горадзеншчына з Горадняй і Беластокам, Віленшчына, Віцебшчына, Смаленшчына, Чарнігаўшчына і сумежныя часткі суседніх губэрняў, якія засялялі беларусы. Грамата была зьвернута да ўсяго міжнароднага згуртаваньня. Праўда, у ёй не было прамых заклікаў да дыпляматычнага прызнаньня БНР. Выказвалася толькі надзея, што «любячыя волю народы дапамогуць беларускаму народу ў поўнай мэры зьдзейсніць яго палітычна-дзяржаўныя ідэялы».

У сваім спалучэньні граматы даюць уяўленьне аб палітычнай пазыцыі беларускай дзяржавы ў адрозненьне ад праграмы, прапанаванай новай уладай. Прыхільнікі абвяшчэньня БНР не прызнавалі гістарычнай непазьбежнасьці Кастрычніцкай рэвалюцыі, улады бальшавіцкіх Саветаў і рэвалюцыйных камітэтаў. Яны прапаноўвалі па сутнасьці традыцыйныя дэмакратычныя формы грамадзкага і дзяржаўнага ладу. Такім чынам, разыходжаньні з бальшавікамі ішлі глыбей, да сацыяльна-эканамічных і палітычных асноваў дзяржаўнасьці. А гэта прыдавала канфлікту асобую вастрыню. У граматах меліся ідэі, якія зараз прызнаюцца як дасягненьне сусьветнай палітычнай культуры. Гэта свабода слова, друку, сходаў, забастовак, саюзаў, 8-мі гадзінны працоўны дзень і нават «роўнае права ўсіх моў народаў Беларусі». Стварэньне Устаноўчага сойма Беларусі меркавалася на асновах усеагульнага, раўнага, прамога, тайнага і прапарцыянальнага выбарчага права.

Сама ідэя дзяржаўнай незалежнасьці, права нацыі на дзяржаўнае абасабленьне і сувэрэнную дзяржаву, зьяўлялася выражэньнем сусьветнай дэмакратычнай тэндэнцыі, народжанай нацыянальна-вызваленчым рухам. Нацыянальная дзяржава ўсё мацней станавілася нормай структуры міжнароднага згуртаваньня, нягледзячы на захаваньне магутных сусьветных імпэрый. Палажэньні грамат ў вядомай ступэні «стыкуюцца» з нашай сучаснай канцэпцыяй прававой дзяржавы, што стымулюе да іх цікавасьць грамадзкасьці. Спатрэбіліся дзесяткі гадоў, каб нашае грамадзтва, адчуўшы на сабе прыгнёт таталітарызму, ацаніла дасягненьні папярэдніх эпохаў.

(Працяг у наступным нумары)

# Фальшываманэтчыкі старажытнага Полацка *

Ірына Масько

З даўніх часоў зручнае геаграфічнае становішча Полацка садзейнічала ўдзелу ў актыўным міжнародным гандлі. Вельмі рана ўстанаўліваюцца гандлёвыя сувязі Полацка з Рыгай. Першае зь вядомых гандлёвых пагадненьняў адносіцца да 1210 г. У наступны час яно падцьверджваецца абодвума бакамі. Смаленская «Праўда» 1229 г. на працягу некалькіх стагодзьдзяў заставалася асновай для разьвіцьця й арганізацыі гандлю на Дзьвіне: вызначала памер пошліны, нормы штрафаў і г.д. «Нямецкія» купцы мелі права праезду ў Полацак, Віцебск, Смаленск і па-за яго межы. Палачане маглі беспярашкодна наведваць Рыгу, Любек, Готланд...

Не заўсёды, аднак, у адносінах Полацка і Рыгі было ўсё «чыста» і «гладка». Так у канцы ХУ ст. узьнік канфлікт, які зьвязаны з актывізацыяй дзейнасьці полацкіх фальшываманэтчыкаў, спэцыялізаваўшыхся на падробліваньні шылінгаў Лівонскага Ордэна. Факты фабрыкацыі асобнай манэты самі па сабе —своеасаблівыя сьведкі дастаткова высокага ўзроўню разьвіцьця рынычнага жыцьця. Больш таго, інтэнсіўнасьць іх, як відаць, прама прапарцыянальна гэтаму ўзроўню. Таму не выпадкова, што менавіта з канца ХУ ст. — часу, калі таварна—грашовыя адносіны Беларусі ўступалі ў паласу бурнага разьвіцьця, пісьмовыя крыніцы часьцей, чым у папярэднія пэрыяды, фіксуюць выпадкі актывізацыі фальсіфікатараў сродкаў грашовага абарачэньня.

25 студзеня 1493 г. магістар Лівонскага Ордэна Іаган Фрайтаг фон Ларынгхофэн (1483-1494) падпісвае ў Вендэне (сёньня г.Цэсіс) грамату, дзе гаворыцца: «..бургамейстрам і ратманам нашага ордэнскага горада Рэвеля (сёньня Талін)...Па-сяброўску вам паведамляем, што нейкія рускія прыехалі ў Рыгу з Полацка, якія ў Літве (Вялікім княстве Літоўскім), і мелі з сабой фальшывыя манэты,чаканеныя па ўзору вендэнскіх (шылінгаў—І.М.), а менавіта — на адным баку герб, а на другім —рэвельскі крыж з кропкай. (upp der andern süden dath Revelseche Krutze mit eynem stippeken). І аднаго з рускіх схапілі ў Рызе. І ён сказаў, што такіх манэт адчаканена ў Полацку 1/2 ласту (960 кг — І.М.). Дык вось, любыя і верныя, будучы перасьцярожаными вышэй казаным папярэдзьце сваіх бюргераў і купцоў і паводзьце сабе адпаведна, каб усьцерагчыся.»

-----------------

*Да пытаньня аб фальсіфікацыі сродкаў грашовага абарачэньня Полаччыны ў канцы ХУст.



Істотным дапаўненьнем да гэтага дакумэнту зьяўляецца пасьляслоўе: «І яшчэ, любыя падданыя, указаныя фальшывыя манэты нібыта пасланыя (па сьведчаньнях затрыманага палачаніна — І.М.) у нашу краіну...Узоры гэтых фальшывых манэт у запячатаным выглядзе пасылаем вам, каб вы іх аглядзелі і змаглі засьцерагчыся. І калі вы дазнаецеся, што хто-небудзь такія манэты мае або збывае, прыцягвайце іх да адказнасьці...»[1]. З канца XУ ст. стапа чаканкі ордэнскіх шылінгаў была ўстаноўлена ў 180 штук з рыжскай вагавай маркі (207,8 г.) лігатурнага сплаву.[2]

Такім чынам, заканадаўча ўстаноўленая вага гэтага наміналу была роўна 1,15 г. (207,8:180). Падлік, заснаваны на гэтым паказчыку, прыводзіць да высновы, што партыя «шылінгаў», кантрабандаваная палачанамі ў ордэнскія ўладаньні, складалася дзесьці з 834 783 (960 000 :1,15) манэт. Лічба гэта, аднак, магла быць больш значнай: манэтны матэрыял сьведчыць, што ў эмісійнай практыцы Ордэна ўказаная вышэй стапа як пры Ларынгхофэне, так і пры яго прыемніках звычайна істотна зніжалася.[3]Ф.Ларынгхофэн біў у Вендэне шылінгі, зваротны бок якіх меў аднатыпны зь яго рэвельскімі шылінгамі штэмпель. Розніца паміж гэтымі штэмпелямі зводзілася да таго, што на экзэмплярах Рэвеля ў полі паміж вертыкальнай і правай гарызантальнай галінамі «рэвельскага» крыжа зьмяшчалася ўпамянутая цытуемай граматай буйная рэльефная кропка, якая адсутнічала на вендэнскіх шылінгах[4].

Першым цэнтрам манэтнай вытворчасьці Ордэна была Рыга, другім —Рэвель, Што-ж датычыцца Вендэна, то яго эмісійная дзейнасьць абмяжоўвалася спарадычнамалатыражнай чаканкай.[5] Дык вось, магістарскае пасланьне было зьвязана, відаць, з шылінгамі, што імітавалі не вендэнскую, а рэвельскую чаканку.[6]У другім (1584) выданьні «Хронікі Лівонскай правінцыі» Балтазара Русава пад 1494 г. расказваецца аб арышце ордэнскіх купцоў у Ноўгарадзе. Прычанай гэтага было тое,—заўважае аўтар, што рэвельцы аднаго рускага, які фальшывыя шылінгі ў іх горадзе чаканіў (..welckez valsche Schillinge in erer Stadt gemüntet hadde) да сьмерці зварылі згодна нямецкага права.[7]

---

Манэты Лівонскага ордэну 1. Вэндэн, 2. Рэвель

Літаральнае ўспрыманьне гэтага паведамленьня, якое аддзяляе амаль стагодзьдзе ад апісваемай падзеі, предстаўляецца неправамэрным: цяжка ўявіць, каб чалавек, пакараны рэвельцамі, не толькі зьдзейсніў бяссэнсова-рызкоўную авантуру (правоз інструмэнтаў і сыр'явога мэталу ў чужую дзяржаву), але змог наладзіць там вытворчасьць пад яе манэту (замест таго, каб зьдзейсніць гэтую акцыю на радзіме!) Хутчэй за ўсё ён збываў у Рэвелі ўжо гатовыя фальсіфікаты, дастаўленыя з Полацку годам раней.

Наўрад ці выпадк 1493 г. адзіны ў практыцы фальшываманэтчыкаў з Падзьвіньня. Факт падробліваньня ня мог быць выпадковым эпізодам хоць-бы таму, што для такой масавай эмісіі неабходна была пэўная традыцыя вырабу манэты. Можна з упэўненасьцю сказаць, што пераказаны вышэй эпізод — усяго толькі тое, што «ўсплыло на паверхню». Відаць, размах дзейнасьці фальсіфікатараў быў дастаткова шырокі і зусім не заключаўся ў «вузкай спэцыялізацыі» па фабрыкацыі шылінгаў Ордэна. Наглядны прыклад таму — «ліст» Вялікага князя Літоўскага Аляксандра смаленскім мяшчанам (1498), які папярэджвае: «А нам грошай не браковати, ниж ли бы только не железа, а не медь, а не фальш, штобы было серебро, как служит на грош ходячий»[8].

Як бы там ні было, ясна адно: дзейнасьць полацкіх фальсіфікатараў манэты канца ХУ ст. была пастаўлена на дастаткова сур'ёзную аснову.

---

1. Hanserecesse. -- Dritte Abtelung.--Herausgegeben vom Verein für hansische Geschicte.--Dritter Land.-- Leipzig. 1888--s. 103. n 153.

2. Федоров Б. Монеты Прибалтики XII—XУIII столетий. —Таллин, 1966, с. 379—371.

3. Напрыклад, у скарбе, адкрытым у 1957 г. у в. Ружына Гэзекненскага р-ну ў Латвіі, зьмяшчалася 1078 ордэнскіх шылінгаў канца ХУ —50 гг. ХУІ стст., вага большай часткі якіх складала меньш грама. Гл. Ceplite R. XU--XUI gs. litovijas monetu depozits Ruzinas ciema (Latvijas PSR vestures muzejs Raksti. Numismatika. Riga. 1968.- s. 23-33, 35-53,55-56

4. Гл. Федоров Б. Монеты Прибалтики XIII—ХУІ столетий...с. 94, №180; с. 189 №445. Die Saurmasche Münzsammlung deutscher, schweizerischer und polnischer Gepräge.--1 text -- Berlin.1892., --s.127, Ceplite. Op cit.--s.85, NN 1--3. s.92.N 638.

5.У лівонскай Ордэнскай дзяржаве найбольш інтэнсіўна дзейнічалі манэтныя двары ў Рызе і Таліне, у той час як манэтны двор у Цэсісе функцыянаваў толькі ў асобныя гады /Ceplite Op. cit.--s.105/.

6. Адзначым, што на карысьць гэтага меркаваньня гаворыць і тое, што Ф.Ларынгхофэн адрасатам свайго папярэджваньня абраў менавіта рэвельскі магістрат.

7. Russow B. Chronica der Pronintz Lyffland,-- Bart, 1584 // Scritores rerum Livonicarum. -- Riga Leipzig. 1883--s.32.n 22a.

8. Акты Литовско-Руского государства, изданые М.Довнар-Запольським, в. I., М., 1877. с.80.

# Беларусізацыя

## Леанід Лыч

Цалком апраўдала на практыцы, што пры правядзеньні беларусізацыі партыйныя і савецкія органы рэспублікі самую сур'ёзную ўвагу надавалі ўцягненьню ў актыўную стваральную дзейнасьць на карысьць беларускай культуры й асоб небеларускай нацыянальнасьці, якія валодалі беларускай мовай, добра ведалі гісторыю і культуру, асаблівасьці нашага краю.

Беларусізацыя 20-х гадоў дала багата прыкладаў плённай працы прадстаўнікоў расейскай, польскай, яўрэйскай, украінскай, татарскай і іншых нацыянальнасьцей на ніве беларускай культуры. Напярэдадні абвяшчэньня беларусізацыі афіцыйнай палітыкай у першыя гады яе правядзеньня партыйную арганізацыю рэспублікі ўзначальвалі асобы небеларускай нацыянальнасьці, ураджэнцы Кастрамскога павета і г. Цвер А.М.Асаткін-Уладзімірскі (травень-жнівень 1924 г.) і А.І. Крыніцкі (верасень 1924—травень 1927 гг.). Апошні зь іх за кароткі тэрмін так авалодаў беларускай мовай, што чытаў на ёй свае даклады. Паважлівымі адносінамі да беларускай культуры і мовы вызначаўся першы сакратар ЦК КП(б)Б Я.Б.Гамарнік (лістапад 1928—кастрычнік 1929 гг.), ураджэнец украінскага г. Жытомір. Затое «вельмі стараннымі, — паводле вобразнага выраза гісторыка А.Караля,— праваднікамі курсу, які начыста адмаўляў беларусізацыю», былі камандзіраваныя ў рэспубліку для заняцьця пасадаў першага сакратара ЦК КП(б)Б К.В.Гея (студзень 1930—студзень 1932 гг.) і начальніка АДПУ БССР Г.Я.Рапапорта.[1]

У комплексе распрацаваных урадам і партыяй мерапрыемстваў па беларусізацыі грамадзкага жыцьця вялікая роля надавалася сыстэме народнай адукацыі. Было прынята правільнае рашэньне: беларусізацыю ажыцьцяўляць раўналежна па ўсіх катэгорыях навучальных і выхаваўчых установаў, г. зн. пачынаючы ад дзіцячых садоў і канчаючы тэхнікумамі й інстытутамі. Урад і партыя патрабавалі рацыянальнага спалучэньня ў справе беларусізацыі адміністрацыйных мэтадаў з растлумачальнай працай у масах. Спаслацца тут можна на рашэньні каст-

---

Працяг. Пачатак у №2.

1. «Советская Белоруссия» 25.03.1989.

рычніцкага (1925 г.) пленума ЦК КП(б)Б, у якіх запісана: «Пры правядзеньні нацыянальнай палітыкі ў школьнай справе ў шэрагу таварышаў сустракаюцца памылкі дваякага роду. Адна зь іх заключаецца ў імкненьні заняць пасіўную пазыцыю ў гэтым намаганьні й адмовіцца ад ініцыятывы зьверху. Між тым, працяглая прыгнечанасьць і ўціск беларускай і яўрэйскай культураў прывялі да ўкараненьня нават у масах насельніцтва гэтых нацыянальнасьцей погляду на беларускую й яўрэйкую мовы, як непаўнапраўныя. Пры гэтых варунках адмова ад ініцыятывы зьверху (папярэдні накід сеткі, агітацыя за навучаньне дзяцей на роднай мове і г.д.) азначала-б аб'ектыўна ўступку русіфікатарскім традыцыям і таму не адпавядае нацыянальнай палітыцы партыі. Другая памылка выяўляецца ў спробе праводзіць нацыянальную палітыку ў школьнай справе голымі мэтадамі адміністраваньня і камандаваньня, што пленум прызнае зусім недапушчальным».[2]

Карысны ўрок беларусізацыі 20-х гадоў— пільная ўвага ўрада і партыі да выкладчыцкага корпуса вышэйшых і сярэдніх спэцыяльных установаў. Каб дамагчыся хутчэйшага зруху, давялося сьвядома пайсьці на ўвядзеньне рознага характару заахвочвальных мер. Плённая праца ў напрамку беларусізацыі кіруючых кадраў рэспублікі давала станоўчыя вынікі. У 1926/27 навучальным годзе (н.г.) з агульнага ліку працоўных школ чатырохгодак і сямігодак на беларускія прыпадала 85 і 67%.[3] Праз два гады з 5 818 чатырохгодак беларускіх школ было 5 456, адпаведна па сямігодках 372 і 279.[4] Беларуская мова стала абавязковым прадметам выкладаньня ў расейскіх, яўрэйскіх, польскіх і іншых нацыянальных школах рэспублікі.

Захоўваліся тэрміны беларусізацыі ў вышэйшай і сярэдняй спэцыяльнай школе, асабліва педагагічнага профілю. Так, у 1926/27 н.г. з 14 пэдагагічных тэхнікумаў на беларускай мове працавалі 10, яўрэйскай — 3, польскай —1. Выкладаньне прадметаў у сельскагаспадарчых тэхнікумах удалося беларусізаваць на 63 %, сельскагаспадарчых школах —на 67, прафсаюзных школах — на 60, рабфаках — на 69 і толькі ў Беларускім дзяржаўным унівэрсытэце —пакуль што на 31%. Цалком вялося выкладаньне прадметаў на беларускай мове ў Магілёўскай савецка-

2. Резолюции Пленума ЦК КП(б)Б (12—15 октября 1925). Мн., 1925, с.20,21.

3. Практическое разрешение национального вопроса в Белорусской Социалистической Советской Республике. Мн., 1927.ч.1. с.13.

4. Камуністычнае выхаваньне.1931. №5, б.9.

партыйнай школе першай ступені і такой-жа школе другой ступені ў Віцебску. А таксама ва ўсіх пунктах па ліквідацыі непісьменнасьці і ў школах для малапісьменных, што абслугоўвалі беларускае насельніцтва.

Станоўчыя зрухі прыкметна абазначыліся і на ўсіх астатніх напрамках беларусізацыі. Паўнапраўнай гаспадыняй уваходзіла беларуская мова ў тэатры, навуку, цікавымі творамі папаўнялася мастацкая літаратура. Значна павялічылася колькасьць беларусаў у складзе кіруючых работнікаў партыйнага, савецкага, прафсаюзнага і камсамольскага апаратаў. Ужо ў 1927 г. сярод сябраў местачковых саветаў дэпутатаў беларусаў было 53,2%, яўрэяў— 40,5%, палякаў—2,2, валікаросаў—2,5, гарадзкіх адпаведна 45,1, 30,6, 2,5 і 14,5%[5]. Праўда, гэта было значна ніжэй удзельнай вагі беларусаў у агульнай колькасьці насельніцтва рэспублікі. Недастатковае прадстаўніцтва беларусаў у местачковых і гарадзкіх саветах тлумачылася тым, што усё яшчэ нізкі працэнт падаў на карэнных жыхароў рэспублікі. Затое лепш былі прадстаўлены беларусы ў больш высокіх эшалонах улады й органах кіраўніцтва. У тым-жа годзе сярод сябраў райвыканкамаў іх было 79%, акруговых выканкамаў-60, ЦВК БССР—55%[6].

5. Практическое разрешение...Ч.1.с.32.

6. Таксама.

Нягледзячы на першыя посьпехі, беларусізацыю 20-х гадоў ні ў якім выпадку нельга разглядаць як трыумфальнае шэсьце беларускага народа на шляху свайго адраджэньня. І на пачатку, і ў канцы яе заўжды былі цяжкасьці і пера шкоды. Непаразуменьні, а часам і супраціўленьне аказвалі беларусізацыі сяляне. Навязаныя ў дарэвалюцыйны час многім сялянам погляды на беларускую мову, як на «мужыцкую», «халопскую» з прычыны нібыта немагчымасьці выкарыстаньня яе ў складанай дзейнасьці адміністрацыйных і судовых органаў, навучальных устаноў, не так проста пераадольваліся. Не зусім былі падрыхтаваны да суцэльнай беларусізацыі малыя гарады, сярод рабочых і служачых якіх пераважалі асобы некарэннай нацыянальнасьці. Толькі дзякуючы таму, што ў нацыянальнай палітыцы былі ўлічаны інтарэсы і гэтай катэгорыі насельніцтва, яно ў аснове сваёй прыхільна ставілася да беларусізацыі. Значна цяжэй было схіліць на яе бок многіх апаратчыкаў, не выключаючы і тых, хто займаў досыць высокія пасады. Пленум ЦК КП(б)Б (студзень 1925 г.) спасылаўся на тое, што пад той час яшчэ «не былі зламаны рэзка-адмоўныя вялікадзяржаўна-шавіністычныя адносіны да беларускай мовы і працы па беларусізацыі з боку старога расейскага чыноўніцтва, якое знаходзілася на працы ў савецкім

апараце.[7] Такім яно заставалася ў сваёй большасьці і пад канец 30-х гадоў.

Ідэя беларусізацыі не падабалася паасобным палітычным кіраўнікам ўжо на сваім першым этапе. Таму пры любым зручным моманце ёй ставілі палкі ў колы. Сей-той нават у надрукаваных у 1926 г. матэрыялах да 400-годзьдзя нараджэньня друку на Беларусі і зьвязаных з правядзеньнем гэтай даты мерапрыемстваў убачыў крамолу.З рэзкай крытыкай на спробы беларускага нацыянальнага адраджэньня накідваўся пад канец 20-х гадоў першы сакратар ЦК КП(б)Б В.Кнорын. Для гэтай нагоды ён выкарыстаў часопіс «Полымя». Нягледзячы на многія правільныя палажэньні, што выказаны ў 1928 г. В.Кнорынам па праблеме беларусізацыі ў кнізе «За культурную рэвалюцыю», ёсьць тут і такое, што яўна супярэчыла беларускаму нацыянальна-культурнаму адраджэньню. У яго, да прыкладу, былі самыя негатыўныя адносіны да нашай сярэднявяковай духоўнай спадчыны. «Мы так раскрытыкуем» Смаляцічаў і Тураўскіх, —пісаў В.Кнорын,— што двух радкоў ім будзе шкода прысьвячаць у нашай гісторыі, бо яны ідуць ад другой лініі, не ад лініі працоўных мас.»[8] У кнізе ў пэўнай ступені былі закладзены асновы для будучай барацьбы з беларускімі нацыянальнымі дэмакратамі.Праўда, тут у В. Кнорына гэтая барацьба павінна была абмяжоўвацца пакуль што «толькі бязьлітаснай крытыкай рэштак буржуазнага нацыянал-дэмакратызму». Кнорын не сумняваўся, што ўжо ёсьць такія праявы ў культурнай, публіцыстычнай, навуковай і мастацка—літаратурнай дзейнасьці паасобных работнікаў.[9]



(Заканчэньне ў наступным нумары)

7. Резолюция пленума ЦК КП(б)Б. 25—29 января 1925 г. С.8

8. Кнорын В. За культурную рэволюцыю (збор артыкулаў). Мн., 1928. б.81.

9. Кнорын В. За культурную рэволюцыю Мн., 1928. с.81.

Эрнэст Ялугін

Публіцыстычная аповесьць-хроніка ў дыялёгах

# Сьвечкі на Дзяды



Дзеючыя асобы

**Зьміцер Жылуновіч**, кіраўнік Беларускага нацыянальнага камітэта, а ў бліжэйшым будучым—Старшыня першага Беларускага ўрада.

**Чарвякоў, Дыла, Лагун, Шантыр**, яго паплечнікі— прадстаўнікі Беларускага нацыянальнага камітэту.

Дзеючыя асобы

**Мясьнікоў, Кнорын, Іваноў, Разэнталь, Рэйнгольд**, кіраўнікі Заходняй вобласьці й Смаленскай абласной партыйнай арганізацыі бальшавікоў.

**Сталін**, народны камісар па справах нацыянальнасьцей

**Сямён**, з рабочых, дэлегат УІ Смаленскай абласной партыйнай канфэрэнцыі.

**Кірэй**, зь сялян-беднякоў, у нядаўнім салдат.

**Мікола**, таксама селянін і салдат, які на вайне згубіў нагу.

**Яфім**, кухар і гаспадар перасоўнай харчэўні «Яф.Нобель».

**Радавец**, нядаўні дзеяч Беларускай Народнай рэспублікі, актывіст.

**Казімір**, інжынер, які таксама спачувае БНР.

**Алеся**, яго жонка, настаўніца малодшых клясаў. 22 гады, ня болей.

**Жакоўскі**, менскі акцёр, 20 гадоў.

**Першы салдат**, з Румыскага фронта.

**Другі салдат**, з Прыбалтыйскага фронта.

**Быкоўскі**, напалоханы шляхцюк.

**Бывалы**, доктар яшчэ тых навук. Яму гадоў пад 70, але ён яшчэ энергічны.

**Нябіты**. Малады чалавек у тужурцы чыгуначніка, магчыма зь «нефармалаў».

А таксама: **Дзяжурны** па станцыі, **Чырвонаармеец** зь вінтоўкай, прадаўцы газэт, пасажыры і людзі з натоўпу.

Дзяржурны звоніць у звон. У прываказальны гоман урываюцца галасы прадаўцоў газэт.

—Пакупайце «Дзяньніцу»! Орган Беларускага нацыянальнага камісарыята! Бежанцы за нацыянальную рэспубліку!

—Чытайце бальшавіцкую «Звезду»! У Літве Савецкая рэспубліка! Ленін падпісаў дэкрэт: «Рэвалюцыйны пралетарскі ўрад Расіі прызнае незалежнасьць Літоўскай Савецкай рэспублікі!

—Чытайце «Вольную Беларусь»! Мажліва, апошні нумар! Члены Беларускай народнай рады будуць прыняты прэм'ер-міністам Англіі!

Ж ы л у н о в і ч: (да Рэйнгольда). Ну, што будзеце рабіць, калі Англія прызнае Белраду?

Р э й н г о л ь д: У адрозненьне ад Троцкага і Радэка мяне цікавіць куды больш, дзе ў бліжэйшы тыдзень здабыць вугаль і хлеб для мінскага пралетарыята.

С я м ё н: Дапаможа СаветРасія.

Ж ы л у н о в і ч: Яна сама галадае.

С я м ё н: Ну, тады да літоўцаў зьвярнуцца.

Р э й н г о л ь д: Баюся, Савецкая ўлада там наогул доўга не пратрымаецца. Мне званіў Міцкевіч—Капсукас, пытаўся, ці можам мы яго падтрымаць.

Ж ы л у н о в і ч: Калі нашы інтэрнацыяналісты ў Смаленску ў бліжэйшыя дні не зразумеюць, што Беларусі трэба неадкладна самавызначыцца, нам самім давядзецца паспытаць агрэсію з боку Антанты. Прычым як-бы не здарылася так, што гэта будзе выглядаць, як абарона дэмакратыі.

Р э й н г о л ь д: ( круціць ручку тэлефона) Масква! Масква! Я Мінск! Тэрмінова.

С т а л і н : У апарата Сталин,Минск, что там у вас? Немцы убежали?

Р э й н г о л ь д: Последних провожаем. А заадно кое-кто из здешней публики рванул за рубеж.

С т а л і н: Туда им и дорога.

Р э й н г о л ь д: Я собственно по поручению Минскога губревкома. Могли бы вы передать товарищу Свердлову наши предложения? Воронка и Скирмунт, лидеры Белорусской рады, удрали в Англию.

С т а л і н: Я уже сказал: скатертью дорага....Однако, вы бы могли их и попридержать. Следует быть в таких делах порасторопнее.

Р э й н г о л ь д: Они поддержки у запада будут просить.

С т а л и н: Подумаешь, напугали!

Працяг.Пачатак у №2

Р э й н г о л ь д: Но они будут выдавать себя представителями демократических масс Белоруссии, которых будто бы задавили силой советвойска. Товарищ Сталин, просим сообщить товарищу Свердлову, что местные советские круги в интересах истины, чтобы не допустить одурачивания рабочих Антанты, предлагают принять экстренные контрмеры. Провести акцию самоопределения трудящихся Белоруссии Литвы, создание Белорусско—Литовской трудовой коммуны. На федеративной связи, понятно, с СоветРоссией..

С т а л і н: Не порите горячку, товарищ. Вот Красная Армия обоснуется в Минске, потом разберемся. Товарищ Свердлов интересуется: вы там надежные органы Советвласти создали?

Р э й н г о л ь д: Можете не сомневаться. И сразу же провозгасили единство с СоветРоссией.

С т а л і н: Правильно! Главное — создать надежный аппарат диктатуры пролетариата. Все остальное приложится. Всего хорошего.

Зноў наплывае моцны шум чыгуначнай станцыі, неспакойная гамана натоўпу.

Д з я ж у р н ы: Паньства зь білетамі на Берлін! На Бе-ерлін!

Звоніць разьвітальна звон. Раздаецца гудок цягніка.
Вынырвае Быкоўскі. Ён мае задаволены выгляд.

Я ф і м: Пане яшчэ тут? Мoжа, што, пан, прывёз прадаць?

Б ы к о ў с к і: Дайце кавы, пан кухар, я ад'язджаю. Еду дадому, у Стоўбцы, бо ён хутка сам тут будзе.

Я ф і м: Няўжо германцы зноў вернуцца?

Б ы к о ў с к і: Вернецца пыхлівы Эдвард Вайніловіч.

Я ф і м: Пан хоча сказаць, што гэткі знатны шляхціц прызнаў бальшавікоў?

Б ы к о ў с к і: Якіх бальшавікоў? Праз два тыдні...не, праз дзесяць дзён тут будуць польскія легіёны. Чулі: польскі ўрад заявіў расейскаму Саўнаркаму афіцыйны пратэст. Хай ня шлюць сваіх чырвонаармецаў ва ўсходнія крэсы Вялікай Польшчы.

Я ф і м: Божухна, бракавала нам толькі палякаў.

Б ы к о ўс к і: Вайніловіч — зь імі, а як толькі ў Менск,— я выклікаю яго на паядынак, як то і належыць па старым рыцарскім звычаі. Вайніловіч у варшаўскай газэтцы сказаў: яны, зямяне, — ест рыцарства, а мы, то значыць і я, засьценкавыя,—сялянства, бо самі зямлю арэм.

Ж а к о ў с к і (зьяўляецца з натоўпу): Го-о, я думаў пан засьценкавы шляхціч за тое стане біцца, што Вайніловіч прадае Беларусь Пілсудскаму!

Б ы к о ў с к і: Што то ест Бяло-русь? То выдумка пана прафэсара Карскага, якому карцела стаць расейскім акадэмікам. Ды узяў у дапамогу паэта з роду Луцэвічаў, які шляхецкае прозвішча памяняў на паганскае —Купала.

Ж а к о ў с к і: Беларусь ёсьць пакуль! І будзе— калі мы, яе дзеці, не адцураемся роднай маці.

К і р э й:Ты галавы не задурвай. Для паноў, можа, і ёсьць, а для мужыкоў няма.

Ж ы л у н о в і ч ( праслухаўшы ўсе размовы круціць ручку тэлефона): Алё! Таварыша Леніна. Уладзімір Ільіч? Гэта Жылуновіч. Ага беларус. Ведаеце мяне? (Сьмяецца задаволена). Уладзімір Ільіч, дапамажыце. Незь Белнацкамам усё ў парадку. Уладзімір Ільіч, памятаеце, вы ў жніўні прымалі дэлегацыю Ўсебеларускага з'езду бежанцаў? Вы яшчэ спыталі, на якой мове дэлегаты з трыбуны гавораць. Ну так, на якой пан, на той і батрак-жа. Ага, бяда з мовай. Дык зараз, уявіце, яшчэ і нацыянальная інтэлігенцыя можа ў эміграцыю падацца. Хто ад крыўды, хто ад страху, што рэпрэсуюць як нацыяналістаў. Раіце зьвярнуцца да таварыша Сталіна? Атрымаў ён ад ЦК даручэньне? Ведаю, у адной-жа сыстэме працуем. Не аўтаномію нават, а савецкую рэспубліку? Мы будзем спадзявацца. Дзякуй. Ад усіх беларусаў-пралетарыяў. Шчыра дзякуй. І вам усяго добрага. (Вешае трубку)

Ж а к о ў с к і (Жылуновічу): Вы, там у Белнацкаме. Няўжо не разумееце, што вас прывучаюць хадзіць на павадку? Ды вы-ж палітычныя жабракі, а не палітыкі.

Ж ы л у н о в і ч (Жакоўскаму): Я на гэта пісаў у «Дзяньніцы», што без СаветРасіі беларусам-пралетарыям сваёй рэспублікі не ўзняць, разумееце, зямляк?

Р а д а в е ц: Які з Жылуновіча палітык? Ён баіцца адкрыта ідэялягічнай канкурэнцыі. Вось і просіць, каб маскоўскія бальшавікі сілай зброі яму расчысьцілі крэсла на міністэрскім алімпе. У Белнацкаме ўсе сабраліся марыянеткі, маскоўскія камісары іх рукамі ладзяцца жар заграбаць у Беларусі. Вунь, Фабіян Шантыр і Таршкевіч Бранілаў узялі і кінулі іх гайно.

Б ы в а л ы (узнімаючыся раптам): Паслухайце! Калі ўжо гаварыць аб здрадзе, не кранаючы чысьціні клясавых прынцыпаў, дык гэта сябры камісарыяту так званай Беларускай народнай рэспублікі — здраднікі. Тэлеграму ў канцы красавіка 18-га года кайзэру Нямеччыны хто паслаў? Магу азнаёміць. Вось, што пісалі: «Рада Белорусской народной республики декларировала ( паварочваецца да Нябітага) ...чуеце? — независимость...Так вось. А германскія войскі тым часам амаль усю Беларусь акупіравалі! (Зноў чытае па паперцы): Так, независимость...единой и недели-

мой Белоруссии и просит Ваше величество оборонить ее в пртязаниях до создания независимости в союзе с Германской империей.

Р а д а в е ц: Вось што ўспомнілі...А я вам адкажу, гэта быў тактычны ход. Выйсьця мы не бачылі іншага ў той момант. Хацелі, каб Нямеччына юрыдычна прызнала Беларусь дзяржавай і дала нам дапамогу, бараніла ад падзелу як саюзніка.

Б ы в а л ы: Без славеснага туману, называем рэчы сваімі імёнамі —звычайная контррэвалюцыйная здрада.

Р а д а в е ц: А Брэсцкі мір? Скажыце, можна было падпісваць умову з тым-жа кайзэрам без згоды беларусаў, але за кошт іхняй тэрыторыі?

К і р э й (ён толькі што аднекуль вынырнуў зноў, на гэты раз з чырвонай павязкай на рукаве): А ну ці-іха! Адыдзі далей ад масы, пакуль цэлы...

Р а д а в е ц (селяніну, што выйшаў з натоўпу): Слухай, чалавеча, а табе якая ўлада лепей— свая, менская, ці маскоўская з камісарамі?

С е л я н і н: А тая, каб зямлю дала ды назад потым не адабрала. Добрага здаровейка, пане-таварышу...

К і р э й: Наша ўлада цяпер будзе, буржуяў да яе блізка не пусьцім. (Да Міколы) Ты ўсё тут? Каго выглядаеш?

М і к о л а: Можа зь вёскі каго знаёмага ўбачу. А ты калі дахаты?

К і р э й: Справа ў мяне тут ёсьць...дзяржаўная. Паслухай, Мікола, а на храна табе ў вёску? Тут зараз такія справы пачынаюцца...

М і к о л а: Дзяцей трэба пабачыць. На ногі пастаціць іх трэба неяк.

К і р э й: Паслухай, табе трэба ўбіцца ў камітэт які, за пісара.

М і к о л а (сьмяецца): Зь мяне, браце, пісар, як з таго куля.

К і р э й: Нічога. Ведаеш-жа як зараз сьпяваюць: хто быў нічым, той стане ўсім! Галоўнае цяпер — каб на нас Антанта не паперла...

У гэты час зьявіўся Рэйнгольд. Ён уважліва прыслухоўваецца да размовы.

Р э й н г о л ь д (ціха Сямёну): Што чуваць на пагранiччы?

С я м ё н: Неспакойна. Палякаў баяцца. Літва абасобілася ў рэспубліку, а Антанта штурхане Пілсудскага па «беларускаму» пытаньню на СаветРасію.

Р э й г о л ь д: Мясьнікоў лічыць, што польскі пралетарыят паўстане супроць буржуазнай пілсудчыны і зьяднаецца з рабочымі Нямеччыны.

С я м ё н: Не ведаю, што будзе рабіць польскі пралетарыят, але многім вядома, якія настроі ў легіёнаў Доўбар—Мусьніцкага — шаблямі памагчы «палякам малым»,

як яны завуць маіх землякоў, пазбавіцца ад пагрозы бальшавізму. Тэлеграфуйце, пакуль не позна, у Маскву, Цэнтр.

Р э й г о л ь д (падыходзіць да тэлеграфнага апарата): Масква! На провадзе Мінск, Рэйнгольд. Таварыша Сьвярдлова. Просім уздзейнічаць на Смаленск. Віцебск, як нам стала вядома, іх не падтрымлівае. Магілёў, здаецца, таксама. Кожная з губерняў цягне ў свой бок і ў канечным выніку можа далучыцца да любой з суседніх рэспублік, з-за недальнабачнасьці мясцовага кіраўніцтва парушыць гістарычна абумоўленыя эканамічныя сувязі з СаветРасіяй. Час ня церпіць, чакаем адказу.

Пакуль Рэйнгольд гэта гаварыў тэлеграфісту, да тэлефона падышоў Мясьнікоў, і, працягваючы слухаць Рэйгольда, зьнімае трубку.

М я с ь н і к о ў: Москва! У аппарата Смоленск. Мясников. Товарищ Сталин?

С т а л і н: Сталин у аппарата. Слушаю, Александр Фёдорович.

М я с ь н і к о ў: Товарищ Сталин, нам стало известно, что некоторые минские деятели, поддавшись сепаратистским насторениям, будируют вопрос о так называемой Белоруссии. Нам сообщают, што Свердлова даже беспокоят телеграммами. То, о чем там говорится, повторяю, всего лишь частное суждение недальновидных лиц.

С т а л і н: С минскими товарищами трудно спорить. Они говорят: а чем тогда лучше литовцы или эстонцы, которым помогли создать республики?

М я с ь н і к о ў: Белорусы — вообще фикция, товарищ Кнорин нам уже докладывал. Выдумка буржуазных интеллигентов.

С т а л і н: Выдумщиками мы ешё займемся. Что предлагаете теперь?

М я с ь н і к о ў: Конечно, несознательных хватает и в кругах местных Советов, да и на нашей областной партконференции этот вопрос может всплыть снова. Я просил бы сообшить нам официально, как обстоит дело с литовской советреспубликой.

С т а л і н: Мы её принимаем.

М я с ь н і к о ў: Знаю. Но не объясняется ли ее появление исключительно политическими, агитационными мотивами?

С т а л і н: Пролетариат тоже нуждается в своей политике, товарищ Мясников.

М я с ь н і к о ў: Хотелось бы знать отношение к этому вопросу товарища Свердлова в смысле будущего. И вообще, к проблеме литовско-белорусского объединения. У нас двадцать седьмога очеродная облпартконференция. Может, Центр найдет возможность прислать своих представителей?

С т а л і н: Что-ж, обсудим ваши предложения. Успеха вам. А представителей особо не обещаю. Вы там и сами люди политически подкованные. Всего хорошего

(Працяг у наступным нумары)

# Лёс музыканта

Віктар Новік

Той драматычны лёс, які напаткаў беларускую інтэлігенцыю ў часы сталіншчыны, не абмінуў і выдатнага музыканта — Паўла Восіпавіча Карузу.



П. Каруза выконвае камэрную сымфонію.

Таленавіты кампазытар і дырыжор, вядомы фальклярыст і музыказнаўца, удзельнік шматлікіх фальклёрных экспэдыцый Інстытута этнаграфіі і фальклёру АН БССР — ён амаль 20 гадоў правёў у турмах і ссылках. Да таго-ж, пасьля вяртаньня на радзіму, пасьля ўсіх блуканьняў па пакутах, загінула усё, створанае ім за папярэдні час. І толькі дзякуючы трывала ўсталяваным кантактам з боку «менскіх беларусаў», гэтага пажылога, вельмі інтэлігентнага і паважанага чалавека ізноў удалося павярнуць да творчай дзейнасьці.

Ён піша тэарэтычныя працы па фальклёру «Вытокі беларускага мэласу» й «Абрадавыя песьні «Паазер'я» (На жаль, яны засталіся незакончанымі). Апрацоўвае беларускія народныя песьні. Стварае арыгінальныя чатырохгалосныя хоры, усе a'capella. Спрабуе сілы ў інструмэнтальным жанры — піша для струннага аркестра «Камэрную сымфонію». «Мне важна, — пісаў кампазытар,— каб наша такая адметная

архаіка магла выконвацца не толькі ў выглядзе дыямента ў сырым выглядзе фальклёрнымі калектывамі, але і ў мастацкай аправе, толькі такой,якая не схавае за аправай самую сутнасьць ... песьні. Пры гэтым у роднай вопратцы, а не пазычанай». Да творчай спадчыны кампазытара адносяца і 12 невялікіх арыгінальных хораў на словы Я.Купалы, Я.Коласа, М.Багдановіча, Л.Геніюш, Н.Гілевіча. Ураджэнец паўночна-заходняй сьпеўнай зоны (Полаччына), як фальклярыст, ён быў закаханы ў багатыя песенныя традыцыі свайго народу. Зь яго Пастаўшчыны ім запісана й апрацавана для зьмешанага хору «Вясельная». Ён апрацоўвае для хору «Калядку», прычым робіць яе ў той самабытнай манеры калядных напеваў, якая характэрна для поўначы Беларусі.

П.Каруза робіць тры апрацоўкі купальскіх мэлёдыяў: скантамінаваную «Купалінку» ( з сола сапраны), «Сею палею» і «Ляцеў сакалок», усе для зьмешанага 4-х галоснага хору. Першая ўключае ў сябе адвольную кананічную форму правядзеньня галасоў, кантрапункты, вытрыманыя танічныя арганныя пункты. Другая пабудавана на правядзеньні тэмы .з адным з галасоў пры акордным, контрапунктычным складзе астатніх. Характэрныя ўнісоны на канцах фраз, фэрматы на першых долях такта вынікаюць з народных выканаўчых традыцый. Трэцяя купальская мэлёдыя таксама вузкааб'ёмная з характэрным ладавым «устоем». Яе апрацоўка носіць ярка выяўлены антыфонны характар паміж саліруючымі партыямі і агульнахаравым рэфрэнам. Тым самым дасягаецца старадаўняя сьпеўная манера нашых продкаў. У ёй напісана і апрацавана для хору сюіта «Беларусь мая сьпеўная».

На жаль, выкананьня сваіх твораў аўтар так і не дачакаўся. Хаця і меў нагоду. Аднойчы на яго кватэру прыйшлі літоўскія калегі, якія, праслухаўшы яго творы, згадзіліся ўсё ім напісанае выдаць і выканаць пры ўмове яго літоўскага аўтарства. Толькі кампазытар-патрыёт адмовіўся.

Не ўсе створанае кампазытарам бездакорна, ёсьць і манатоннасьць, некаторая пасьпешлівасьць. Ды і разлічаны яго творы былі найперш для аматарскіх калектываў. Адсюль і простая, у асноўным, музычная мова, невялікі аб'ём. Але ў яго творах жыве руплівая, закаханая ў народную мэлёдыю, душа зьбіральніка і знаўцы народных песенных скарбаў. Душа чалавека, які праз усе пакуты пранёс сьвятую да музыкі любоў. Але хай пра той час раскажа сам кампазытар. Няхай з пажаўцелага ад часу дакумэнта загучыць голас самога Паўлы Карузы.

Генеральнаму пракурору Саюза ССР
тав. Руденко Р.А.
ад грамадзяніна Карузы Паўла Восіпавіча,
1906 г. нараджэньня, беларуса, хатні адрас: Вільнюс, вул. Вікенто, 5.

# Скарга*

( у парадку нагляду)

У 1934 г. я быў асуджаны на 10 гадоў пазбаўленьня свабоды па арт. 56, ч.6 УК РСФСР (па падазрэньню ў шпіянажы). Асуджаны я быў незаконна і лічу, што падлягаю рэабілітацыі па наступных падставах.

Я нарадзіўся і вырас у в. Ваўкалатка Віленскай губ. Віленскага уезду (зараз Вілейскі р-н Менскай воб. — Рэд.) ў сям'і селяніна. Спачатку вучыўся ў расейскай народнай школе. У 1920 г. мой далёкі сваяк, актывіст беларускага адраджэньня К.Дашэўскі ўладкаваў мяне ў 4 кляс Віленскай беларускай гімназіі.

Пасьля адкрыцьця Віленскай кансэрваторыі ў 1923 г. я паступіў у яе на тэарэтычнае аддзяленьне, якое скончыў у 1928 г. па клясу тэорыі й кампазыцыі.[1] З 1926 г. я наведваў у якасьці вольнага слухача сацыялягічна-эканамічны аддзел Віленскага унівэрсытэта.

У 1928 г. быў выбраны дэпутатам у Польскі парлямэнт (Сэйм) ад блока Беларускіх палітычных партый народніцкага тыпу (Сялянскі саюз Беларускай хрысьціянскай дэмакратыі), які выступіў ў агульным блоку ўсіх нацыянальных меньшасьцей у Польшы.

У 1930 г. Сэйм быў распушчаны. У наступных выбарах я сваю кандыдатуру не выстаўляў, бо з галоўнымі кіраўнікамі нашай палітычнай групіроўкі: Ф. Ярэмічам, А.Станкевічам і інш.— у мяне ўзьніклі палітычныя рознагалосьсі. Да гэтага часу я ўжо афіцыйна выйшаў з арганізацыі так называемай Беларускай хрысьціянскай дэмакратычнай партыі і сышоўся з арганізацыяй, блізкай да разгромленай «Грамады» — Таварыствам беларускай школы.

У 1930 г. мяне выбралі сябрам праўленьня кааператыўнага банка, дзе я супрацоўнічаў з такімі сябрамі Таварыства беларускай школы як Р.Р. Шырма. Усе гэтыя гады я ня мог знайсьці працы па спэцыяльнасьці. Жыў выпадковымі заробкамі (прыватныя лекцыі музыкі, настройка інструмэнтаў). У гэты час я пачаў зьбіраць беларускі фальклёр, апрацоўваць беларускія песьні. І, наогул, у вольны час займаўся кампазыцыяй.

Прыкладна ў сярэдзіне лютага 1934 г. мяне сустрэла студэнтка Віленскага унівэрсытэта Марыя Васільеўна Скурко (па мужу Маслоўская). Яна сказала, што мяне хацеў-бы пабачыць чалавек зь Менску, які знаходзіцца на нелегальным становішчы і мае да мяне нейкае даручэньне. Я даў згоду.

Першая сустрэча адбылася ў гэты-ж самы вечар, на цёмнай вуліцы недалёка ад банка. Чалавек сказаў мне, што радыкальныя колы беларускай грамадзкасьці заўважылі маё збліжэньне зь левым крылом і хацелі-б мне даручыць сур'ёзную палітычную працу: арганізаваць новую палітычную партыю.

---

* Дакумэнт друкуецца у перакладзе на беларускую мову зь некаторым скарчэньнем.—Рэд.

1.Павел Восіпавіч Каруза вучыўся па клясе фартэпьяна ў Марцэліны Кімант-Яцыны, першага музычнага абраміцеля п'есы Віцэнта Дуніна-Марцінкевіча «Залёты — В.Н.

Я адказаў, што ў мяне няма дастатковага ўплыву ў Беларускай партыі, бо я палітык выпадковы, маё прызваньне музыка. На гэтым наша гутарка і скончылася.

Прыблізна праз два тыдні, тая-ж Скурко прапанавала мне яшчэ раз сустрэцца з гэтым чалавекам, які назваў сябе «Іосіфам». На гэты раз сустрэча адбылася на кватэры аднаго студэнта. «Іосіф» тады сказаў мне, што на арганізацыі палітычнай партыі яны не настайваюць, але спадзяюцца, што ад грамадзкай працы я не адмоўлюся.

Я адказаў, што лічу сваім абавязкам выконваць любую пасільную мне грамадзкую працу. Тады ён ўспомніў, што я займаюся зборам беларускіх песен і што аб гэтым таксама ведаюць у Менску. Там жадаюць мне дапамагчы матэрыяльна: выдаць беларускія песьні ў маёй апрацоўцы і выплаціць мне ганарар. «Іосіф» папрасіў мяне даць яму некалькі ўзораў маіх апрацовак, якія я перадаў назаўтра.

На наступнай нашай сустрэчы ён сказаў, што мне прыдзецца паехаць у Данцыг (Гданьск), дзе быў Савецкі консулят. Таксама папярэдзіў, што там будзе чалавек, які дамовіцца адносна выданьня маіх твораў. «Іосіф» даў грошы на дарогу і сказаў, што з намі хацеў-бы пагутарыць прадстаўнік кампартыі Заходняй Беларусі, на што я даў згоду.

У канцы красавіка 1934 г. мы зь «Іосіфам» паехалі ў Гданьск. Дабіраліся асобна, але дамовіліся сустрэцца ў прызначаным месьце. На наступны дзень ён прыйшоў да мяне і прапанаваў пайсьці ў горад на сустрэчу.

На плошчы Фантанаса нас чакаў незнаёмы мне чалавек, які шмат распытваў аб маім становішчы, аб маёй працы і знаёмствах.

Потым сказаў, што ён старшыня кампартыі Заходняй Беларусі, а што датычыцца вывучэньня маіх твораў, то «заўтра або пасьлязаўтра павінен прыехаць чалавек з Менску па гэтай справе».

Прайшло яшчэ два дні. Вечарам «Іосіф» зайшоў да мяне і сказаў: «Пойдзем у консульства, там цябе чакаюць». На вуліцы стаяла машына, мы селі ў яе і паехалі.

Праз некаторы час я пачаў турбавацца, што мы едзем вельмі доўга. Зьвярнуў ўвагу, што мы выехалі за горад. Я пачаў з хваляваньнем пытацца, куды мы едзем. Мне сказалі, што зручней ўсяго будзе сустрэцца ва Ўсходняй Прусіі, каб агенты польскай разьведкі нас не ўбачылі.

Я пачаў іх прасіць вярнуцца ў горад, у гэты час мы пад'ехалі да мяжы Прусіі. Я катэгарычна заявіў, што выходжу і вяртаюся пехатой у Данцыг. Тады «Іосіф» паказаў мне наган і запытаўся: «Знаеш, чем это пахнет? Начал, так доходи до конца!» Я, ўражаны, прыціх. Шафёр выйшаў з машыны і, як мне здалося, паказаў пропуск пагранічніку. Мы паехалі далей.

На чыгуначнай станцыі Марыенбурга, «Іосіф» сказаў: «Веди себя тихо!» — і ўвесь час трымаў руку ў кішэні з наганам. Пакуль не падыйшоў цягнік, які транзітам ішоў у Маскву, ён не адпускаў мяне ні на крок.

Потым падаў савецкі пашпарт на маё імя і сказаў, што я павінен сябе называваць савецкім служачым з Данцыгу. Тут-жа папярэдзіў, што, калі па дарозе задумаю ўцякаць, яны ўсё роўна мяне знойдуць.

«После всего этого сам понимаешь, что тебя мы не оставим в живых.» Я хацеў даведацца, што ад мяне патрабуюць, але ён заявіў: «Приедешь в Минск, там узнаешь».

(Працяг у наступным нумары)



# За што загінуў ён, Грачанікаў?

І зноў няшчасьце напаткала нашу Бацькаўшчыну. На 53-годзе нечакана і трагічна абарвалася жыцьцё вядомага беларускага паэта, галоўнага рэдактара часопіса «Маладосць» Анатоля Грачанікава. 5 сакавіка яго, непрытомнага і зьнявечанага невядомымі асобамі, знайшлі на пустцы каля тэнісных кортаў. Мэдыкі зрабілі ўсё магчымае, але вярнуць да жыцьця Анатоля Грачанікава так і не ўдалося.

*...Калі паміраюць паэты,*
*Калі яны паміраюць,—*
*Няпраўда, што ўсе сакрэты*
*Нам яны пакідаюць.*
*Яны забіраюць з сабою*
*Талент свой адмысловы,*
*Кінуўшы ў мора людское*
*Свае несмяротныя словы.*
*Калі паміраюць паэты,*
*Што ні перад кім не гнуцца,—*
*У чалавецтва прасветы*
*На ўсе вякі застаюцца.*

Так пісаў Анатоль Грачанікаў у сваім вершы, прысьвечаным Максіму Багдановічу.Так ён і памёр, забраўшы з сабою свой вялікі талент і тайну гэтага чорнага, жахлівага забойства.

Мы не ведаем, хто забіў Анатоля Грачанікава. Каму перайшоў шлях гэты мужны Беларус, які яшчэ да перабудовачнай адлігі друкаваў творы М. Ермаловіча, Л. Геніюш і іншых «апальных» аўтараў. Але мы, беларусы, патрабуем праўды. Мы хочам ведаць: **за што загінуў ён?..**



*За што загінуў ён, Грачанікаў?*
*Не скажуць ні Мінюст, ні МУС...*
*А я ўсё думаю ў адчаі:*
*«За тое, мо, што Беларус».*
*За тое, можа, што прылюдна*
*Ён карыстаўся роднай мовай...*
*І вось зьнічтожаны ўблюдкамі,*
*Не скажа болей ён ні слова.*

*За «Споведзь» Геніюш, магчыма,*
*Што ў «Маладосці» друкаваў...*
*Ужо тады хтось за плячыма*
*Стаяў і моманту чакаў.*
*Відаць, і творы Ермаловіча*
*Узбуджалі чыйсьці дух дэбільны...*
*І вось рэдактара надоечы*
*Агенты зла ўзялі і забілі.*

*Прадстаў прад чытачом нядаўна*
*Ў «Маладосці» БНФ...*
*І, пэўна, ураз падаў каманду*
*Агентам тым-жа іхні шэф.*
*Не стану доўжыць спіс тырвожны,*
*Што ў трагедыю вядзе...*
*У асноўным сьмерць —наш спадарожнік,*
*І хто з нас заўтра на чарзе?!*

*Ды колькі можна, колькі можна*
*Маўчаць і падстаўляць сябе?!*
*Ну хопіць быць ужо заложнікамі,—*
*Пара яднацца ў барацьбе!*
*За што загінуў ён, Грачанікаў,*
*Не скажуць ні Мінюст, ні МУС...*
*А я ўсё думаю ў адчаі:*
*«Хутчэй за то, што— Беларус».*

*Яўген Гучок*

# «Мы выйдзем шчыльнымі радамі...»

Анатоль Яўхімавіч

Такога Беларусь яшчэ ня бачыла. Нарэшце, пасьля доўгага летаргічнага сну прачнуўся рабочы кляс, гегімон і апора партыі. «Гаспадар» краіны Саветаў паўстаў супраць партыйнай улады і прыгнёту партапаратчыкаў.

Падзеі пачаліся 3 красавіка. А 10-й раніцы рабочыя Менскага электратэхнічнага завода імя В.Казлова пакінулі свае станкі і выйшлі на штрайк-дэманстрацыю. Да іх далучыліся рабочыя суседніх заводаў: аўтаматычных ліній, шасьцерняў, трактарнага, прыблізна 15 000 рабочых. Усе згрупіраваліся на скрыжаваньні вуліцаў Даўгабродзкая й Уральская. Цяжка было верыць сваім вачам. Але гэта была ява. І я сказаў сабе: «Слава Богу! Нашыя шасьцігадовыя намаганьні прабудзілі і зварушылі народ, ён выйшаў на вуліцу з усьведамленьнем сваёй годнасьці».



На скрыжаваньні Даўгабродзкай і Уральскай

Пачаліся прамовы. Слова бралі рабочыя, кіраўнікі нядаўна створанага «Рабочага Саюза Беларусі» М. Собаль і Г. Мухін. Рабочыя выбралі стачачны камітэт і прынялі пастанову, каб гарадзкія ўлады, якія прыбылі на мітынг, неадкладна далі памяшканьне і тэлефон для стачкама. Старшыня гарадзкой рады А. Герасіменка выканаў патрабаваньне. (Камітэт адтрымаў пакой на вул. К. Маркса14, тэл. 27-24-68).

Усе напружана чакалі наступнага дня. Раніцай 4-га красавіка пранеслася вестка: гігант беларускай індустрыі, якім усе ганарыліся, а партыя асабліва — Менскі аўтазавод— абвясьціў забастоўку. Рабочыя МАЗа ішлі па Партызанскаму праспэкту да плошчы Леніна. Па дарозе да іх далучаліся іншыя прадпрыемствы. Калі калёна параўналася з элекатратэхнічным заводам, зь яго вялікай хваляй вылілся рабочыя ў спэцоўках. Я стаяў на вуліцы Даўгабродзкай і вітаў іх:«Жыве Беларусь!» Каля сотні галасоў у розных месцах адказала: «Жыве!» Я перахрысьціўся, бо зьявілася надзея: той, хто ідзе ўжо ведае, за што мае змагацца,і далучыся да калёны.



4 красавіка 1991 г. Плошча Леніна



На трыбуне помніка Леніну перад домам Урада

Мне стала радасна на душы, я пачаў сьпяваць: «Беларусь, Беларусь, дарагая, за Цябе, за Цябе мы ідзём!» Маім суседзям спадабалася песьня. Многія зь іх падхапілі: «Беларусь, Беларусь, дарагая...» Нарэшце, нацыянальная самасьвядомасьць прачнулася ў рабочых.

Больш гадзіны мы рухаліся да плошчы Леніна. Транспарт уступаў нам шлях.А на плошчы нас ужо чакалі рабочыя заводаў «Калібр », «Камунарка», гадзіньнікавага, мэдыцынскіх прэпаратаў. Чуўся гучны голас з мікрафона, які быў устаноўлены каля трыбуны помніка Леніну: «Далой, каго?» І адказ стотысячнай арміі рабочых: «Дземянцея»!

— Далой, каго?

— Гарбачова!

Паміж трыбунай і Домам урадам цягнуўся ланцужок шэрых шынэляў з

дубінкамі. Падумалася, няўжо партыйцы дадуць загад таўчы нас? Але, відаць, больш чым стотысячны натоўп «апоры партыі» перапалохаў апаратчыкаў. І шэрыя шынэлі пад гіканьне і сьвіст паказалі плечы.

Каля 12 гадзіны пачаўся мітынг. Яго вялі народныя дэпутаты Вярхоўнага савета БССР Новік і старшыня «Рабочага Саюза Беларусі» М.Собаль. На пастамэнт помніка Леніну прынеслі бел-чырвона-белы сьцяг. Знайшліся асобы, якія загукалі, але хутка прыціхлі, бо шмат прыхільнікаў не знайшлося. Прамоўцы, што зьмянялі адзін аднаго паясьнялі, што гэта наш нацыянальны сьцяг, і Менскі гарадзкі савет афіцыйна прызнаў нацыянальную сымболіку. Калі першы прамоўца на заканчэньні сказаў: « Жыве Беларусь!», адказалі яму сотні, але пад канец мітынгу на кліч: «Жыве Беларусь!» — уся плошча грымела: «Жыве!» Першыя прамоўцы нерашуча парамаўлялі па-беларуску, але паступова адвагі набраліся і выступленьні на роднай мове гучалі ўсё часьцей. Пэўна, гэта была не літаратурная мова, а хутчэй гарадзкая трасянка. Але і гэта радавала. Слухаючы прамовы рабочых, стала зразумелым: яны ўсьвядомілі, што змаганьне за паляпшэньне жыцьця патрабуе палітычных зьменаў. Калі прамоўцы пыталі: «Ці патрэбны на заводах парткам? » У адказ грымела магутнае: «Не!»

—Ці аднапартыйная дзяржаўная ўлада забясьпечыць свабоду?

І зноў аднагалосна гучаў адказ: «Не!»

Рабочыя патрабавалі: ліквідацыя парткамаў на прадпрыемствах, роспуск З'езда Народных дэпутатаў СССР, Вярхоўнага Савета СССР і БССР і іх перавыбары на дэмакратычнай аснове, пераход да шматпартыйнай сыстэмы, адстаўка Гарбачова і Дземянцея, адмена манаполіі КПСС на ўладу. Было вырашана штодзённа а 7-й вечарам па беларускаму тэлебачаньню даваць 30 хвілінаў для паведамленьняў стачачнага камітэта. З энтузіязмам усе сустрэлі вестку, што рабочыя Барысава, Бабруйска, Жодзіна, Салігорска, Гомеля, Баранавіч, Берасьця забаставалі таксама.

Мітынг меўся скончыцца а 4-й гадзіне, але надыйшлі калёны рабочых, якія павінны былі працаваць ў II-ю змену, і мітынг працягваўся з новай сілай. Разам з рабочымі І-й зьмены я аўтобусам ад'язджаў да хаты. Я бачыў іх баявы настрой. Рабочыя адчулі сваю сілу і, самае галоўнае, —сваю нацыянальную годнасьць. Аналосна гаманілі, што годзе трываць беларусам і быць пакорлівым народам , трэба рыхтавацца да барацьбы.

Фота Вячаслава Эйсмана.

# Баляда 25 сакавіка

## Віктар Шніп

*Нявольнікі не знаюць і не хочуць Сьвят,*
*Ім рабства даражэй за ўсё на белым сьвеце.*
*Яны ня бачаць на Айчыне ценю крат.*
*Людзей у небыцьцё зьдзімае чорны вецер.*
*Не прызнае нявольнік вольнага жыцьця,*
*Не прызнае крыві, пралітае за Долю.*
*Бялеюць рэшткі Храма ў замяці сьмяцьця*
*І груганы крычаць пра шчасьце і пра волю.*
*І мы, зьдзіраючы ланцуг, на пляц ідзём.*
*Мы ведаем, чым можа скончыцца дарога.*
*Сьвяткуем наша Сьвята, плачам і пяём,*
*За лёс цяжкі не праклінаючы нікога.*
*Чужак няславіць мову і штандар,*
*Баіцца, нібы сьмерці, крыўскае Пагоні.*
*Нявольнікам патрэбен грозны цар,*
*А нам патрэбна Воля, сьветлае Сягоньня.*
*Хоць Сьвята нам забараняюць сьвяткаваць.*
*І хоць палохаюць салдатамі, турмою,*
*А мы ідзём, бо нам няма чаго губляць,*
*Мы ўсё яскравей бачым Мэту прад сабою,*
*Нявольнікі-ж не знаюць і не хочуць Сьвят*
*Сваёй зямлі, дзе ад сьвятынь застаўся друз....*
*Не перакрэслена Айчына ценем крат.*
*Жыве Беларусь!*
*Жыве Беларусь!*



# Беларусі (Да Сьвята)

## Зьніч

Я жыўлюся Тваёй цішынёй,
Што пад сьнегам нячутна сьлязіцца,
Што пад сонцам зьвініць сакавіцкім,
Што стаіць паміж мной і Табой...
Я гаюся Тваёй цішынёй,
Ачышчальнай, нібы навальніца ....



# «Не давайце чужынцамі быць!»

## Анатоль Дарожскі

25 сакавіка ў Доме літаратара а 6-й гадзіне пачалі зьбірацца людзі. Дзяўчаты і хлопцы, што сустракалі ўсіх пры ўваходзе, віншавалі гасьцей з нацыянальным сьвятам і прышпільвалі бел-чырвона-белыя стужкі. Настрой быў узьняты. Прыйшлі ня толькі вэтэраны нацыянальнага руху і прадстаўнікі БНФ, але сябры іншых дэмакратычных партыяў, суполак, клюбаў, арганізацыяў. Асабліва цешыла ўсіх вялікая колькасьць моладзі. У фае — унікальнейшая выстаўка дакумэнтаў БНР, якую падрыхтавала Таварыства архівістаў Беларусі. Першы раз мы, дзякуючы сьмеласьці і руплівай працы Ганны Сурмач і Вячаслава Сяляменава, маглі пазняёміцца з дакумэнтамі, якія захоўваліся ў спэцархівах. Фатаграфіі, граматы, значкі, паштоўкі, пашпарты, выдадзеныя Урадам БНР— пакінулі вельмі моцнае ўражаньне.

Вечар, які ладзілі Беларускі фонд Культуры, Саюз пісьменьнікаў Беларусі, Таварыства Беларускай Мовы, Нацыянальна-дэмакратычная партыя, пачаўся а 7-й гадзіне выканьнем гімна «Мы выйдзем шчыльнымі радамі». З прывітальным словам выступіў старшыня Беларускай Сацыял—Дэмакратычнай Грамады—Міхась Ткачоў. Пасьля забраў слова заступнік старшыні БНФ Юрась Хадыка. Артыст Анатоль Жук прачытаў III Устаўную грамату. Мастацкую частку праграмы падрыхтавалі Антаніна Хатэнка і кіраўнік «Невялічкага беларускага тэатра-студыі» Мікола Казачок. Ён-жа выканаўца тэатралізаванага паказу па матывах паэмы Чарота «Босыя на вогнішчы». Тацьцяна Мархель, заслужаная артыстка БССР, выканала народныя песьні.

У трэцяй частцы выступіў ганаровы сябра часопіса «Полацак» Анатоль Белы. Ён ад імя часопіса павіншаваў прысутных зь сьвятам. На заканчэньні выступіў С. Сокалаў—Воюш. Ён зачытаў прывітаньні ад Беларускага Згуртаваньня ў Аўстраліі, ад БАЗА, ад Арганізацыі Беларуска-Амэрыканскай Моладзі і выканаў некалькі песьняў. Вечар, прысьвечаны Дню Незалежнасьці, закончыўся агульным сьпевам «Фронт, фронт, фронт!!!».

# «Вянок» з калекцыі



*«Пэўна, любіце вы, пане, між страніц старых, пажоўклых кнігі, ўжо даўно забытай, адшукаць сухі цьвяток. Пабляднелі яго фарбы, ледзь трымаюцца лісточкі...Але колькі ён прабудзіць ў сэрцы кволым пачуцьця! Чаго вы цьвяток хавалі, што жадалася, збылося,— ўсё ўсплыве ў душы і збудзіць мілых згадак доўгі рой. Ў думцы зноў вы пражываеце беззваротныя часіны, і для вас каштоўным стане гэты высахшы цьвяток....»*

*Гэтыя словы Максіма Багдановіча нявольна прыходзяць на памяць, калі глядзіш на творы мастачкі Таццяны Лапіцкай. Няброскія, такія лёгкія лініі на яе графічных афортах— а якую хвалю пачуцьцяў падымаюць яны! Мастакі ня любяць расказваць сваіх сакрэтаў, але, здаецца, загадка Таццьяны крыецца ў яе бязьмежнай шчырасьці, адкрытасьці, дабраце душэўнай. Можа таму мастачка з такой любоўю афармляе дзіцячыя кніжкі. Бо, як вядома, дзеці не прымаюць фальшу.*

# *Тацьцяны Лапіцкай*



*Нарадзілася Тацьцяна Лапіцкая ў1947 г. у Менску. У 1968 г. скончыла Менскую сярэднюю школу мастацтва, а ў 1976 г. Менскі тэатральна-мастацкі інстытут, аддзяленьне графікі. У рэспубліканскіх і ўсесаюзных выстаўках удзельнічае з 1975 г. Працуе ў кніжнай і станковай графіцы. Афарміла шмат кніг. Сярод іх «Беларускія народныя гульні», «Мы робім казку» Валянтыны Коўтун, «Сьцяпан —вялікі пан» А.Вольскага (1979 г. дыплём 2-й ступэні на Рэспубліканскім конкурсе кнігі 1980), «Сонца скача на траве» Хведара Жычкі, Беларускую азбуку «АБВ» (1983, дыплём 1-й ступэні на Рэспубліканскім конкурсе кнігі 1984), зборнік выбраных твораў Алаізы Пашкевіч «Цётка». Сярод яе твораў ёсьць партрэт Максіма Багдановіча і яго «Вянок».*

*Паглядзіце на на гэтыя творы Тацьцяны Лапіцкай. Не абмініце іх. Хай нагадаюць яны добрыя згадкі. Няхай «Вянок» мастачкі напоўніць Вашую душу сьветлымі ўспамінамі.*

# Максімава Яраславія

Сьвятлана Белая

*1991 год — Максіма Багдановіча год. 25 травеня спаўняецца 74 лета з часу яго сьмерці, а 9 студзеня — 100 гадоў з дня нараджэньня. Паміж гэтымі лічбамі няпоўных 27 гадоў жыцьця Паэта і столькі падзей!*

*Яму ня споўнілася і пяці гадоў, як ён разьвітаўся з Бацькаўшчынай. Волжскія краявіды доўгі час нагадвалі яму родную старонку. Толькі і яны ня здолелі замяніць Максіму прыгажосьці нашай зямлі. Там, сярод Паволжскага прастору ён адчуваў сябе выгнаньнікам і марыў толькі аб адным, аб Беларусі.*



Домік па вул. Любімская, дзе Максім Багдановіч жыў з 1912 г. па 1916 г. Здымак 1989 г.

*З 22-х гадоў, праведзеных на чужыне, амаль восем Максім прабыў у Яраславіі. Гэта была самая плённая частка яго жыцьця. На яраслаўскай зямлі паэт пазнаў першае каханьне і горыч стратаў. Тут ён сплёў свой паэтычны вяночак. А ў хатцы па вул. Любімская ўпершыню пабачыў свой адзіны прыжыцьцёвы зборнік успамінаў «аб беднай, далёкай сваёй старане». Але Яраславія падарыла яму ня толькі натхненьне і настальгію па Маці-Краіне. Тут ён аднойчы зразумеў: няма на сьвеце лепш зямлі, чым тая, што дадзена табе Богам.*

*Сёньня мы пачынаем друкаваць урыўкі з кнігі, у якой расказваецца пра Яраслаўскі пэрыяд жыцьця Максіма Багдановіча. Пра таленавітага юнака, паэта, публіцыста, літаратуранага крытыка , перакладчыка і горад, які натхняў яго.*

# Цьвяток радзімы—васілёк...



Любай матулечцы, Белай Але Мікалаеўне,
маёй даражэнькай яраслаўчанцы,
прысьвячаю гэтую кнігу.



Сьцюжа, мрок...Я ізноў хваравіты.
Ў сэрцы — думак дакучных цяжар.
Заварыць-бы гарачай гарбаты,
Разагрэць-бы хутчэй самавар...

Пяро выпала зь бязвольнай Максімавай рукі і медлена скацілася на падлогу. Падняць яго ня было ўжо сілаў. Ён хацеў паклікаць каго-небудзь з хатніх, але з грудзей вырваўся толькі ціхі стогн. І зноў, ужо трэці раз за вечар, удушлівай хваляй падкаціўся пакутлівы, сухі кашаль. Разам зь ім пачаўся галаўны боль. Цела стала наліваца гарачым сьвінцом. А на грудзі быццам-бы забраўся нябачны, такі сівавусы, згорблены вадзянік. Той заўсёды прыходзіў да яго ўначы, калі ён хварэў, і сваімі халоднымі, ліпкімі, як вужака, рукамі сьціскаў горла. Максім прыклаў да губ хустку і паспрабаваў павярнуцца на бок. Сілы з кожнай хвілінай пакідалі яго. А душу, сэрца, грудзі разьдзірала хвароба. Яна пачалася нечакана напярэдадні Новага 1913 года.



... Максім ляжаў у сваім пакойчыку і пісаў ліст ў рэдакцыю «Нашай нівы». Вясёлы, звонкі голас бацькі, які пасьля сьмерці жонкі Марыі, маці Максіма, вельмі рэдка вось так радасна і бестурботна гучаў, перабіў думку. Юнак адклаў у старон ку ліст і прыслухаўся.

— Ну дзеці,— даносілася з сталовай, якая адначасова служыла і заляй, і бібліятэкай, і дзіцячым пакоем,— будзем на наступным тыдні пераязджаць на новую кватэру. Мне параілі адно добрае месца. І сёньня я аглядаў яго. Вельмі ўтульная хата. Вокны выходзяць на сонечны бок. Пакоі ўсе сьветлыя, вялікія і цёплыя. Якраз для вас, каб вы не хварэлі зімою. Перабірацца пачнем на гэтым тыдні, каб сьвяты сустракаць на новым месцы. Ну, згодны ці не?

Малыя радасна зашчабяталі, але Аляксандра Апанасаўна, цётка Максіма, прыкрыкнула на іх, каб не гаманілі.

—А на якой вуліцы, ты знайшоў кватэру? —нягромка спытала яна. Переезд якраз пад самыя сьвяты, калі ў гаспадні столькі справаў, ёй здаваўся неабдуманым.

—На Любімскай. Ведаеш, там дзе царква Міколы Мокрага. Гэта недалёка ад

Максімавага ліцэя, — адказаў бацька і раптам успомніў: А дзе-ж Максім? Зноў пайшоў у бібліятэку ці ў сваёй кельлі замкнуўся?

Максім не стаў чакаць, пакуль бацька пакліча яго. Ён адклаў незакончаны ліст на пісьмовы стол і пайшоў у сталовую, дзе сабралася ўся сям'я.

—Максім,—пачаў бацька.—Ёсьць прыемная навіна. Мы пераязджаем на новую кватэру. Яна даволі вялікая. Будуць асобныя пакоі і для бібліятэкі, і для гасьцей. Можаш потым і сяброў сваіх да нас запрасіць. А то ты ўсё адзін ды адзін... Што-ж ты маўчыш? Табе што, нецікава?

Максіму сапраўды было абыякава: ці тут, на Лясной пляцоўцы, яны будуць жыць, ці пераедуць на іншае месца. Ён ведаў, што новая кватэра не палепшыць яго ўзаемаадносінаў зь сям'ёй, у якой ён адчуваў сябе апошнім часам нікому непатрэбым. Добра ведаў, што і гасьцей наўрад ці ён зможа прывесьці. Бо справа не ў маленькай кватэры, у якую сорамна запрасіць каго-небудзь, а ў бацьке, які так і не зарэгістраваў шлюбу з Аляксандрай Апанасаўнай, роднай сястрой яго маці .

—Чаго ты маўчыш?— зноў спытаў бацька.

—Што мне казаць, калі ты ўсё вырашыў. Здаецца мне, Любімская вельмі старажытная вуліца.. Калі не памыляюся, то некалі тут па загаду Пятра I пабудавалі аружэйны двор, які выпускаў стрэльбы. Але пажар зьнішчыў яго. І аружэйную вытворчасьць больш у Яраслаўлі не аднаўлялілі. Але не гэта галоўнае. Думаецца, вуліца знаходзіца недзе на ўскраіне горада.

—Як бы не так, — запярэчыў бацька. Табе адтуль да ліцэя нават бліжэй будзе. Тым больш, што недалёка ад хаты праходзіць трамвай. У выпадку чаго, можна хутка на ім дабрацца да цэнтра. Вось пабачыш, то добрае месца. Блізка ад дома народная чытальня й электрычны тэатр. Насупраць жыве добры спэцыяліст —доктар Бібікаў... А галоўнае, за кватэру гаспадар просіць няшмат. Напалову меньш, чым наша мадам Воўкава. Так што вырашана. Пераязджаем.

Пераезды зь месца на месца былі для Багдановічаў зьявай звыклай. Яраслаўль быў чацвёрты горад пасьля Менску, Гародні, Ніжняга Ноўгарада, куды бацька равёз сям'ю. Адам Ягоравіч трапіў сюды, дзякуючы сваёй службе і характару. Зь Ніжагародскага аддзяленьня Сялянскага банка, якому было прысьвечана амаль 11 гадоў сумленнай працы, надворны саветнік Адам Ягоравіч Багдановіч перайшоў у Яраслаўскае. Пэўна, быў вымушаны зрабіць гэта не па ўласнай волі, а пад націскам ніжагародскага дваранства, самага багатага зямельнага ўласьніка Верхняга

Паволжа. Больш за 70 працэнтаў самых лепшых зямель губэрні трымалі яны ў сваіх руках. Праўда, дзе-нідзе трапляліся ў іх уладаньнях і благія надзелы. Вось іх па вельмі высокіх цэнах і задумалі прадаць найбольш кемлівыя гаспадары. Адам Ягоравіч быў чалавекам сумленным і прынцыповым. Ён павёў барацьбу супраць тых злачынстваў. Але дзе там!. Скупшчыкі зямель аказаліся заўзятымі спэкулянтамі, якія дзейнічалі арганізаванымі шайкамі. Праўда, на некаторы час іх грабежніцкая дзейнасьць усё-такі спынілася. Але поўнасьцю пакончыць з спэкуляцыяй не ўдалося. Бо не пасьпеў Адам Ягоравіч пачаць тую справу, як на яго навалілася лавіна даносаў, скаргаў з боку раззлаваных дваран. І хаця надворны саветнік Багдановіч карыстаўся павагай і меў нагоду праз нейкія пяць-шэсць гадоў стаць адным з загадчыкаў банка, гэта не выратавала яго ад гневу губэрнатара горада. Прыйшлося падаваць прашэньне аб пераводзе. Губэрнатар, які толькі і чакаў моманту, каб пазбавіцца ад гэтага пільнага чалавека, з радасьцю апрабаваў просьбу.

Месцам службы прызначаўся Яраслаўль—«горад белакаменны, вясёлы, прыгожы, з садамі, старажытнымі...царквамі, вежамі і брамамі, горад са сваім тварам». У ім добра развівалася сельская гаспадарка і прамысловасьць. Ды і ад сталіцы Яраславія знаходзілася недалёка. Зьвязвалася зь ёй водным шляхам і чыгункай.



І вось новы пераезд, ужо ў Яраслаўлі і ўжо ня першы. Дом Ржэўскага, дзе Адам Ягоравіч вырашыў зьняць кватэру, быў зусім новым. Спадар казаў, што пабудаваны ён ў 1901 годзе, і лепшага месца яны не знойдуць ва ўсім Яраслаўлі. Усё гэта, мажліва і было так, калі-б не адна акалічнасьць. Пасярэдзіне вуліцы некалі працякала невялікая рачушка. Хаця ў пачатку XIX стагодзьдзя «бацькі» Яраслаўля і правялі сьцёкавую канаву, але гэта не вырашыла праблему. На месьце ракі засталіся сажалкі, якія вясной разьліваліся па вуліцы і затаплялі ніжнія паверхі будынкаў. Таму ў дамах на Любімскай стаяла вільготнасьць. Тутэйшыя жыхары ведалі пра гэта, але Адама Ягоравіча не папярэдзілі. Ён са спакойнай душой і вырашыў пераехаць сюды, ня ведаючы, што тут яго Максім згубіць сваё апошняе здароўе.

  

У нядзелю, 29 снежня 1912 года сям'я Багдановічаў ад'язджала на новую кватэру. Максім займаўся бібліятэкай. Нарэшце, ён спакаваў апошні стос кніг і пачаў выносіць іх на вуліцу. Вася Ржэўскі, у бацькі якога яны здымалі кватэру, грузіў іх ў калёсы. Але ўсе кніжкі адным разам не ўвайшлі.

—Нічога,— падбадзёрыў Максім свайго памочніка.— Ты адвозь, а я пачакаю .

—Я зараз-жа,—паабяцаў хлапец.— Праз некалькі хвілін, вось пабачыш, вярнуся.

—Добра—добра,—усьміхаючыся адказаў Максім. Яму падабаўся гэты спрытны гаспадарскі сын. Каб час прайшоў хутчэй, пачаў гартаць нейкую кніжку. Раптам адтуль выпаў пажаўцелы лісток паперы. Толькі і пасьпеў прачытаць: «Даражэнькаму і любаму...» Почырк быў да болі знаёмы. Максім недзе вельмі даўно бачыў яго, але дзе? Ён нагнуўся, каб падняць лісток, але вецер-баламут выхапіў яго з рук, закруціў, завярцеў, быццам-бы сам хацеў прачытаць. Але, не разабраўшы дробных дрыжачых літарак, падкінуў высока ўгору панёс у няведамую бясконцую далечыню. Максім кінуўся ўздагон. Толькі дзе там! Вецер быццам-бы дражніў яго. Юнак прыбавіў ходу. Шапка зьляцела з галавы, але ён, не прыпыняючыся і нічога не заўважаючы, бег далей. Некалькі разоў ён спатыкаўся і падаў у сьнег. Але, нарэшце, дагнаў. Кроў ударыла ў твар, калі пачаў чытаць забытыя словы. Стала горача і душна. Не задумоўваючыся, што робіць, Максім скінуў шынэль. Ён не адчуваў, што мароз бярэ яго ў свае халодныя абдымкі, забірае апошняе цяпло кволых лёгкіх. У гэты момант ні на што не хацелася зьвяртаць увагі. Максім быў шчасьлівым, бо, нарэшце, знайшоў Вадзімаў ліст, апошні братаў ліст- запавет.

—Вадзімка, родненькі, як-жа мне не хапае цябе зараз,—ціха паўтараў ён сам сабе.—Братка даражэнькі! Божа мой, чаму ты так рана пайшоў ад нас?

Раней, калі Вадзім жыў, Максім не ўсьведамляў, як горача ён любіў яго. Так, малодшы брат заўсёды браў з старэйшага прыклад. Хацеў быць такім -жа ўпэўненым і непахісным. Але чамусьці тады Максім не адчуваў, што Вадзім не толькі любы брат, а быццам-бы яго другая палавіна. Толькі калі яе не стала, і юнак апынуўся сам- насам зь цяжкімі думамі сваімі, ён зразумеў, што ён згубіў.

Максім зноў і зноў перачытваў тыя некалькі радкоў, якія брат напісаў яму за дзень да сьмерці. Гэта была другая сьмерць у Максімавым жыцьці. Праўда, адыход маці ён памятаў не так ясна, бо яму ішоў ўсяго пяты год. У памяці застаўся толькі шэры дзень, усхваляваны бацька, які бегаў па хаце, сумныя вочы доктара, што ўвесь

час паўтараў: «Такая маладая і прыгожая...» Як і маці Вадзім згарэў ад сухотаў. Хавалі яго пасьпешліва, цёмнай красавіцкай ноччу. І паховіны, як і тая зорачка, што сьвяціла брату ўвесь апошні яго шлях, стаіць у вачах.



Ой,скацілася зорачка, скацілася,
Ты ўшла ад нас— і не прасьцілася,
Не прасьцілася, не разьвіталася,
І куды ўйшла — не сказалася...



Вокліч цёткі Шуры, якая ўбачала яго праз вакно і выбегла на вуліцу, прывёў ў сябе. Ён адчуў, як халоднымі крыламі б'е яго вецер. Асьцярожна, каб не пагнуць ліст, ён паклаў яго ў кішэню. Стаў апранаць шынэль і, нібы праз сон, назіраць, як бегла да яго Аляксандра Апанасаўна. Яна нешта крычала яму, паказвала на шапку... Ён вярнуўся на зямлю толькі, калі прыехаў Вася. Разам пагрузілі рэшткі бібліятэкі і паехалі на новую кватэру.

Шпарка ў срэбным сьнежным пылу ляцелі коні. Перад вачыма плылі прыгожыя цэрквы, вуліцы, дамы, людзі. На Максімавым твары скакалі чырвоныя прамяні вячэрняй заранкі. У галаве ўсё сьмяшалася, ператварылася ў нейкі калейдаскоп. За паваротам бліснула царква сьв .Ільлі. Максім чамусьці ўспомніў, як некалі ён прыхдзіў сюды глядзець незвычайнай прыгажосьці іканастас, зроблены майстрамі зь Беларусі. Ён хацеў прыпомніць драўляныя карункі яго ўзору, але перад вачыма зьявілася адна фрэска, якая тады моцна ўразіла яго. Гэта быў збор ураджаю. Так-так, замест рэлігійнага сюжэта мастак намаляваў сьвята сялянскай працы. Вялікая прастора жытняга палетка, прыгожыя людзі, што працуюць ад зарніцы да вечарніцы. Палетак сжаты чыста і застаўлены цяжкімі снапамі. Нябеснага колеру краскі красуюць на ім. А можа, раслі васілёчкі тут і раней. Не хацелі жнейкі зрэзаць іх, бо радавалі яны душы працавітых людзей.

І ўявілася Максіму: залацісты дзень, залаты палетак, смуглыя людзі, што сьцелюць жыта. А да іх, разам зь сьв. Пятром і Юрыям, ідзе Хрыстос. Вось бачыць ён сярод калосьсяў блакітную кветку, і, павучаючы спадарожнікаў, кажа: «Агляніцеся навокал! Ці-ж не ніва калыхаецца каля нас? Цяжка працаваў ля яе гаспадар і вось бачыць: паміж збожжа ўзраслі васількі. І сказаў ён у сэрцы сваім: хлеб адбіраюць у мяне гэтыя сінія кветкі; бо поўныя вагі каласы маглі-б ўзрасьці на месцы васількоў. Але яшчэ з маленства краса іх прыйшлася мне да душы.Таму я не вырву з карнём іх, як усякае благое зельле. Няхай растуць і радуюць, як у маленстве, сэрца маё...

—Усё, прыехалі,—пачуў Максім голас Васі. Зараз я дапамагу выгрузіць кнігі і

паеду за Адамам Ягоравічам і Аляксандрай Апанасаўнай.

Максім ўвайшоў у хату. Пуста, няўтульна, мэбля паскідана абы-як. На падлозе ён знайшоў некалькі лісткоў паперы. Нераспранаючыся сеў за стол і пачаў пасьпешліва запісваць тыя думкі, што прыйшлі ў дарозе. Ён пісаў ліхаманкава, бо баяўся, што хвароба, набліжэньне якой ён адчуваў, не дазволіць яму запісаць той голас Гасподні. «Калі скончылася сем тысяч год ад стварэньня сьвету, Хрыстос зноў зышоў на зямлю і хадзіў па ёй, каб споўнілася тое, аб чым казалі прарокі. І хадзіў ён па ўсяму краю: І па Міншчыне, і па Віленшчыне, і па Магілёўшчыне, і па Задзьвінскай зямлі. І разам зь імі былі сьвяты Пётра і сьвяты Юры. Але ніхто зь людзей не пазнаў яго...» Максім бачыў, як Хрыстос, нешта сказаўшы людзям, пайшоў далей. Усё бліжэй і бліжэй падыходзіў ён да небасхіла. І ў момант, калі яго белы сілуэт зьнік зь зямлі, на небе зазьзяла яркая зьнічка. Максім адчуў яе гарачыя прамяньні. У вачах пацямнела. Ён згубіў прытомнасьць і пачаў спаўзаць на падлогу. Цётка, якая ўвайшла ў хату, падхапіла яго. Разам з бацькам перанеслі ў ложак. Але Максім нічога гэтага ўжо ня памятаў. Ён быў на прыгожым вясновым лузе. Да яго шчасьлівая і вясёлая бегла маці.

—Хочаш ісьці са мной? — пытаецца яна яго.

—Матулечка, а куды мы пойдзем? —кажа ёй Максім і не пазнае свайго голасу.

—Калі прыйдзеш, сам даведаешся, —сьмяецца яна і цягне яго за руку.

І яны крочаць разам. Усё зіхаціць, зьвініць. Вакол шмат прыгожых красак, але ўсе незнаёмыя Максіму. І раптам ён заўважыў блакітны васілёк. Максім нахіліўся, каб сарваць яго і падарыць матулі, але тая глядзіць на яго сваімі вялікімі шэрымі вачыма і зь нейкім сумам пытаецца: «Навошта ты гэтае робіш, сынку, нашто губіш красу? Паслухай, што я табе скажу: добра быць коласам, але шчасьліў той, каму давялося быць васільком. Гэтая простая краска —сымбаль радзімы беларусаў. Помні гэта, Максімка. Калі ты нарадзіўся, у цябе вочкі былі, як васілёчкі, такія-ж прыгожыя і сінія. Я хачу, каб і ты, тут на чужыне, стаў васільком, гонарам свайго народу. Я ведаю, Богам табе гэтае прадвызначана. Любі, Максімка, красу зямную. Бо нашто на зямлі каласы, калі няма васількоў?.. Нашто хлеб, калі няма прыгажосьці?..»



# «Светлы міг» Яна Чыквіна

Масей Сяднёў

**(З новай кнігі «Масеева кніга»)**

Кагадзе я атрымаў ад паэта Яна Чыквіна зь Беластоку ягоную кніжку вершаў «Светлы міг», што выйшла ў Менску, у выдавецтве «Мастацкая літаратура» ў 1989 годзе. «Светлы міг» быў для мяне нечаканым адкрыцьцём цудоўнай, гаворачы вобразна, балонкі ў вакне нашай сучаснай паэзіі. Як кажа паэт, Муза «прадыктавала яму на вуха словы», што ўрэшце і склалі гэтую кніжку. «Светлы міг»— гэта і для нас сьветлы міг адкрыцьця паэтавага сьвету. Паэт выхоплівае з пацёмкаў глыбінныя пласты нашага быцьця, імкнецца «паспрабаваць бяздонне часу», заглянуць у вечнасьць. Паэт гаворыць: «...пад неба ўюся зорнае і вечнасць п'ю глыткамі невялікімі». Ці не адсюль і тая дружба з Музай, што дыктуе паэту на вуха свае словы? Ня кожны можа заслужыць такую даверлівасьць высокай Музы.

Паэзія Яна Чыквіна па сутнасьці філасофская паэзія. Яна вяртае нашую паэзію ў лона эўрапейскай паэзіі, да вопыту Максіма Багдановіча. Экзістанцыянальна яна адрозная ад нашай сёньняшняй паэзіі, калі хочаце— нават запярэчвае яе матэрыялістычнай сутнасьці, яна ў нашай паэзіі—як-бы новая планета, хоць яшчэ і не адкрытая. Затрымаемся-ж крышку на вобразнай сыстэме кніжкі «Светлы міг», загляньма ў паэтычную гаспадарку Чыквіна. У вершы «Май», напрыклад, дадзены цікавы вобраз вясны. Вясна ў Чыквіна «налівае цяпло ў пасудзіну раслін, Спаўняе таямніцу маяхрышчэння». Як добра сказана! Гэта нібыты паганскае дзейства прыроды. Нязвычны вобраз: «Вясна налівае цяпло ў пасудзіну раслін». Гэтую нязвычнасьць надае яму зматэрыялізаванае, нібы грубое «пасудзіна раслін». Такая «вульгарызацыя» вобразу прадметнасьцю—ці не адна з характэрных рысаў паэзіі Чыквіна. Вось яшчэ адзін падобны прыклад: «Так калісьці пераліваліся ў вядро юнацтва гадзіны з возера дзяцінства». Але гэтая на першы пагляд нязвычайнасьць, зматэрыялізаванасьць, «вульгарызацыя» вобразу прадметнасьцю: пасудзіна раслін, вядро юнацтва, толькі яшчэ больш падкрэслівае, гіпэрбалізуе вобраз, робіць яго больш наглядным, больш даступным. Гэта, аднак, не зьніжае ягонай эстэтычнай вартасьці.

А вось вобраз «таполяў»: «У шчырае поле таропка топаюць таполі». Надзвычайная інструмэнтоўка! Ці ўзяць вобраз месяца ў рэчцы: «Плыве па рэчцы цёплы месяц, Быццам на стол вясельны гуска». Параўнаньне месяца з гускай зноў-жа няз-

вычайнае, хоць вобраз плывучага ў вадзе месяца добра асацыіруецца з дарогай нязшчаснай гускі да стала. У Яна Чыквіна нават дождж «выбіраецца няцвёрдым крокам на бальшак-дарогу і сыпле мокрыя зярняты направа і налева». Пятрусь Макаль у сваёй прадмове да зборніка «Светлы міг» называе падобныя вобразы «зрокавымі зямнымі вобразамі». Бясспрэчна, зазямленьне, беларускае зазямленьне тут ёсьць. Ёсьць у паэта і вобразы, эстэтычна, так- бы сказаць, больш далікатныя, музычныя: «З грацыі кветак музыка тхне», «Рэчка заміраe ў меланхоліі цячэння», «Макі грэюць рукі», у садзе вясной—«пчаліны фэст, як дня благавест». Ёсьць вобразы, так-бы мовіць, быційна-мэтафізычнага складу: «Мы —ластаўкі, што ў палёце адчайным крылышкаюць над чужароднаю ім гладдзю вод». Ад назоўніка крылы ўтвораны дзеяслоў крылышкаць—цудоўна! Або яшчэ такі вобраз: «Ты адыйшла, як адыходзіць цень на грані дня і ночы ад прадметаў». Тут, бадай што, блокаўская сыболіка—«Ты в поля отошла без возврата, да святится имя твое». Зрэшты, цяжка ўявіць паэзію без сымболікі.

Я назваў паэзію Яна Чыквіна эўрапейскай паэзіяй, але ягоная «эўрапейская паэзія» наскрозь прасякнута духам беларускасьці. Яна эўрапейская й адначасна нацыянальная. Як сказаў Бярдзяеў, культура ніколі не была і ніколі ня будзе адцягнена чалавечай, яна заўсёды канкрэтна-чалавечая, гэта значыць нацыянальная, індывідуальна—народная і толькі такою сваёю якасьцю яна ўзвышаецца да агульначалавечага. Досыць прыгадаць тут такія вершы Чыквіна, як «Заход сонца ў аколіцы Дубіч—Царкоўных», «Беластоцкая элегія», «Навальніца ў Беластоку», «Ля Белавежскай пушчы», «Гайнаўшчына» і іншыя, каб пераканацца, што эўрапейская паэзія Чыквіна ўзрасла на беларускай глебе, жывіцца ейнымі сокамі, яна прапісана на зямлі, дзе «Дзед круціў пласцінку жорнаў і коўш мукі быў поўны». Але падобную канкрэтыку нельга разглядаць, як заземленасьць. Паэт гаворыць: «Душой імкнуся ўвысь, ляцець абы-куды». Любая матэрыя ў яго «намагаецца ў мелодыю выліцца».

Ёсьць у паэта і матыў дабрадзейнай, так званай вечнай жаноцкасьці (Das Ewig Weibliche). Дазволю сабе падаць тут цалкам невялічкі верш :

Ёсьць у нашым беластоцкім краі
Незвычайнай прыгажосці жаночыя твары.

Высакароднай прыроды цудоўныя блікі—
Святыя абліччы, каханыя лікі.

Як ад агню, ад іх займаюцца чэрствыя душы
І, згарэўшы датла, стаюцца велікадушнымі.

І ад чараў гэтых мы штораз уваскрэснем,
Абнятыя жарам жаночым, нябесным.

«Абнятыя жарам жаночым, нябесным», «згарэўшы датла», душы нашы становяцца больш шляхетнымі, «велікадушнымі» —ці не такая функцыя паэзіі наогул, паэзіі Яна Чыквіна ў прыватнасьці?

Нарэшце, нельга не закрануць вобраза самога творцы, вобраза паэта ў паэзіі Чыквіна. Які ён? Канешне-ж, звычайна—мізэрны, нікім незразуметы, адрынуты, бяздомны, расьпяты на крыжы.

Няма ні славы, ні багацця—
Адно скрыпучае пяро
Тырчыць з чарнільніцы рабром.
І крыж для новага распяцця.
Я вельмі самотны —айчыны не маю,
Матчынай ласкі.

Што гэта —сум па нябеснай бацькаўшчыне, характэрны для сымбалістаў, ці сум па Беларусі? Па ейнай матчынай ласцы? Настальгія эмігранта?

Гэтак вось, да чаго-б ні дакранаўся Чыквін, пра што-б ні пісаў— усё ў яго «намагаецца ў мелодыю выліцца». Часам гэтая мэлёдыя ў сваім намаганьні зрываецца, але яна сягае, як кажа паэт, увысь, дадамо— па глыток вечнасьці.

Кніжка вершаў Яна Чыквіна «Светлы міг» — гэта прыгожая мэлёдыя, нямалы набытак нашай айчыннай славеснасьці.

1991 г.



Васіль Ткачук

# Пачатак

Міхась Белямук

Да жніўня 1949 г. з той частцы Нямеччыны, што была акупавана амэрыканцамі, у заакіянскія краіны выезд быў павольным. Пераважна выязджалі тыя, хто меў асабістыя запросіны (ашурансы) ад радні. Траплялісся выпадкі, што выязджалі групамі да амэрыканскіх фэрмераў. Напрыклад, у штат Арканзо на плянтацыю бавоўны выехала 20 беларускіх сем'яў. Лягернае жыцьцё спрычынілася, што людзі з розных мястэчак настолькі пасябравалі, што ня хацелі разьвітвацца. Але абставіны складаліся так, што ад'язджалі ў розныя гарады, штаты і нават краіны. Паколькі я выязджаў да бабкі, многія прасілі мой адрас, каб потым праз мяне скантактавацца з роднымі і знаёмымі. Пачынаючы зь верасня 1949 г. атрымліваў па некалькі лістоў штодзённа. Найлягчэйшай да выкананьня была просьба скантактаваньня, але для беспрацоўнага ня лёгка было выканаць і яе, бо не было грошаў на паштовую марку. Прыходзілася прасіць бабку, Амельяна, Сьцяпана купіць паштовыя маркі і канвэрты.

Ад жніўня 1949 г, вызед зь Нямеччыны прысьпешылі, бо амэрыканскі Кангрэс прыняў пастанову аб 250 000 бежанцах, якіх называлі Д.П. ЗША іх прымала, але кожны Д.П. павінен быў атрымаць запосіны. Кожная царква і касьцёл мелі камітэты дапамогі Д.П., але дапамагалі толькі людзям сваёй нацыянальнасьці. Беларусы свайго прыходу ня мелі. Яны належылі да царквы Сьв. Тэадосія, настаяцелям якой быў а. Капанадзі, а старшынёй камітэту дапамогі— Баранава. Ісьці да іх было безнадзейна.

Паколькі Амельян быў вельмі спачувальным, я прасіў яго дапамогі. Ён у даволі хуткім часе пазнаёміў мяне з украінскім адвакатам Дэмковічам ( той зваў сябе Дэмар). Дэмковіч быў сябрам украінскага камітэту дапамогі (ЗУДК), народжаны ў ЗША, але валодаў украінскай мовай дасканала. Аднаго вечара Амельян пазнаёміў мяне з Дэмарам. Я быў вельмі задаволены, бо той аказаўся не толькі патрыётам, але і знаўцам гісторыі. Ён адразу засьведчыў, што хоча дапамагчы беларусам, бо «доўгія стагодзьдзі мы былі разам у супольнай дзяржаве— Вялікім княстве Літоўскім». Я сказаў, што хачу прасіць

аб дапамозе прыезду ў Кліўленд Прэм'ера Ўрада БНР Аўгена Каханоўскага (Калубовіча). Дэмар уважліва выслухаў мае інфармацыі аб А.Каханоўскім і папытаўся, ці маю я банкавую кніжку. Я адказаў, што кніжкі не маю, бо не зарабляю. Дэмар дастаў зь кішэні 5 даляраў і, падаючы іх мне, зьвярнууўся да Амельяна: «Памажыце пану Белямуку ў банку атрымаць кніжку і палажыце на яе гэтых 5 даляраў.» Я быў у разгубленасьці. Дэмар гэта заўважыў і, паклаўшы сваю руку на маю, ціха сказаў: «Я дапамагу, але мне патрэбна банкавая кніжка». Разьвіталіся, умовіліся спаткацца за два дні. Мы шлі і меркавалі, навошта спатрэбілася банкавая кніжка. У тыя часы ў запросінах пыталіся адносна закватэраваньня і працы. Дэмар аб гэтым не пытаў і не цікавіўся, хто будзе спонсарам.

Стаялі апошнія дні верасьня. Вечар быў цёплы. Мы ішлі каля Лінкольн парку, і Амельян прапанаваў пагуляць у ім. Мы крышку прайшліся, потым прыселі і Амельян пачаў дапытвацца, чаму я хачу забраць А.Каханоўскага ў Кліўленд.

— Ён прэм'ер і павінен ехаць у Нью Ёрк, або Вашынгтон. Там кожнай нацыянальнасьці жывуць кіраўнікі, гэта метраполіі. А Кліўленд ёсьць правінцыя, хоць і мае 1 мільён 300 тысяч жыхароў.

Я пагадзіўся з развакньнямі Амельяна і гэтым толькі узмацніў яго цікавасьць. Ён хацеў ведаць сапраўдную прычыну маёй зацікаўленасьці прыезду Каханоўскага. Я адчуваў, калі не адкрыю яму сваёй таямніцы, ён закрыўдуе і не будзе больш дапамагаць. Я сказаў, што А.Каханоўскі адаптаваў Юлю, старэйшую дачку жонкі Яні.



Юля Каханоўская (Андрусышына, маці Данчыка) Нямеччына, 1948 г.

—Паколькі я кахаю Юлю, то павінен выслаць запросіны ўсім —Аўгену Каханоўскаму, ягонай маці Марыі, пляменьніцы Галіне, для Яні, Юлі й Элеаноры.

—А я думаў, —прамовіў Амельян,— што Галя Лічко табе падабаецца. Скажы, хто зь іх прыгажэйшая: Юля ці Галіна?

Мне не хацелася адказваць, але ён патрабаваў адказу.

—Галіна вельмі прыгожая, але я кахаю Юлю, —адказаў я. Мы падняліся і пайшлі дамоў.

Калі наступным разам я спаткаўся з Дэмарам, ён пачаў запаўняць блянкі запросінаў для Каханоўскіх. Паясьніў, што ніводная фабрыка не можа прадбачыць, якая мажлівасьць адносна працы будзе за паўгода. Кампанія ня можа гарантаваць працу, але эміграцыйныя ўлады патрабуюць запісаць, дзе асоба будзе працаваць і колькі зарабляць. Ён назваў прадпрыемствы, у якіх будзе працаваць Аўген, Яня й Юля, бо маці Каханоўскага была ужо старая, а Галя й Элеанора яшчэ малыя. Калі запросіны былі аформлены, Дэмар папрасіў нумар маёй банкавай кніжкі і на спэцыяльнай блянцы стаў нешта пісаць. Калі ён скончыў і я падпісаў, паясніў: «Маці Каханоўскага Марыя мае 65 гадоў, ёй патрэбна грашовая гарантыя, не меньш чым 5000 даляраў. Гэта папера і ёсьць гарантыя. Таму мне і была патрэбна банкавая кніжка». Крышку пазьней Дэмар дадаў: «Памятай, банкавую кніжку нікому не паказвай і не расказвай аб грашовай гарантыі. Калі маеш яшчэ людзей, адданых беларускай справе, калі яны патрыёты, я буду дапамагаць у іх прыездзе Нам, украінскім патрыётам, залежыць, каб паўстаў беларускі нацыянальны асяродак у Кліўлендзе.»

Я варочаўся дамоў шчасьлівы, бо стаў спонсарам Каханоўскага, асабліва Юлі, якая прыедзе ў Кліўленд.

Сустракаўся з Дэмарам і потым. Высылалі запросіны ў Нямеччыну праз Злучаны Украінскі Дапамогавы Камітэт (ЗУДК). Да лютага 1950 г. былі выстаўлены запросіны Сяргею Карніловічу, Сьцяпану Кіселю, для сям'яў Міхася Страпко, Янкі Раковіча, Мікалая Пэнды, Калістрата Савіцкага.

У сакавіку атрымаў ліст ад Янкі Раковіча, у якім той пісаў, што ягоная маці мае паведамленьне адносна запросінаў, але ён нічога не атрымаў. Ягоны ліст мяне зьдзівіў, бо выслаў я яму і маці запросіны ў адзін час. Прайшло пара тыдняў пасьля, і загадкавасьць высьветлілася. Аднойчы я вярнуўся з працы і застаў бабку ўсхваляванай. Яна пражыла ў ЗША 40 гадоў, але вельмі слаба размаўляла па-ангельску. Аднак зразумела, што мяне эміграцыйныя ўлады абінавач-ваюць у фальшывых запросінах для Янкі Раковіча і патрабуюць неадкладна зайсьці ў эміграцыйнае бюро. Мне пагражала дэпартацыя ў Нямеччыну.



## Ой ды завалела маё сэрцайка.

Песьня прысьвечаная беларускім жаўнерам

Словы і музыка
Пётры Нядзьвецкага
Аранжыроўка Аўгена Мэгаліфа

Andante

Голас

Ф-на

1. Ой! ды за-ба-ле-ла ма-ё сэр-цай-ка аб ма-ту-леньцы ма-ей

ды ні-чо-га не па-ра-дзіш, ды ні-чо-га не па-ра-дзіш разь-ві-тац-ца му-сіў зёй

*Ой, ды забалела маё сэрцайка*
*Аб матуленьцы маёй.*
*Ды нічога не парадзіш,*
*Ды нічога не парадзіш,*
*Разьвітацца мусіў зь ёй.*

*Ой, ды забалела маё сэрцайка*
*Аб дзяўчыначцы маёй.*
*Што-ж рабіць, калі краіна*
*Кліча ў бой — бывай дзяўчына,*
*Разьвітацца мусіў зь ёй.*

*Прыйдзе час, вярнуся ў сваю хатачку,*
*Як усіх ворагаў паб'ю.*
*Толькі ці знайду жывую*
*Маю мамку дарагую*
*І дзяўчыначку сваю?*



# Пётра Звонны

Пётра Нядзьвецкі (Звонны) нарадзіўся 14 сакавіка 1918 года ў мястэчку Касьцяневічы Вілейскага р-на, Менскакай воб. 3 маленства яго цікавіла музыка. Хлапчук часта бегаў у касьцёл паслухаць арган. Калі яму споўнілася 7 гадоў, ён навучыўся граць на скрыпцы. Пётра лятуцеў стаць музыкантам. На жаль, у бацькоў не было грошаў, каб заплаціць за навуку.

Юнацкія гады поўныя мараў. Пётра Нядзьвецкі вучыўся нотнай грамаце саматугам. Праз нейкі час ён ужо мог запісваць мэлёдыі, якія ўвесь час зьвінелі ў яго душы. У 1938 г. у Вілейцы меўся адбыцца фэстываль. У сваёй в. Вераб'і Пётра арганізаваў маленькі музычны ансамбль: цымбалы, дзьве скрыпкі і гармонік. Усім спадабаліся маладыя музыкі, якія задорна гралі і сьпявалі. Іх ансамбль заняў тады першае месца. Арганізатары фэстывалю парадзілі Пётру з'ездзіць ў Вільню да скрыпачкі Ванды Ледухоўскай. Тая была прафэсарам Віленскай кансэрваторыі. Праслухала яна ігру юнака на скрыпцы і сказала, што Пётра таленавіты музыка. Парадзіла яму паступаць у кансэрваторыю і дала пасьведку. Акрылёны хлапец вярнуўся дамоў. Але палітычныя падзеі наступнага года ўскладніліся. Пра кансэрваторыю прыйшлося забыць. Неўзабаве пачалася вайна.

Падчас вайны Пётра Нядзьвецкі напісаў словы і музыку песьні, якая вельмі часта сьпяваецца і сёньня: «Ідуць жаўнеры Беларусі». Вайна скончылася, Пётра апынуўся ў Нямеччыне, у амэрыканскай зоне. Там ён пазнаёміўся з кампазытарам М. Куліковічам. Той вучыў яго гармоніі музыкі. Пасьля эміграцыі ў ЗША лекцыі прыйшлося спыніць. Але і сёньня Пётра Нядзьвецкі ўвесь вольны час прысьвячае музыцы.

М. Дубок



# Званы Беларусі

Міхась Чаромха



Мітрапаліт Беларускай Праваслаўнай Царквы (БПЦ) Філарэт наведаў 9-га студзеня 1990 г. Горадню ў справе рэстаўрацыі Барысаглебскай (Каложскай) царквы. Царква гэтая— унікальны помнік беларускага дойлідства XII ст. патрабуе рамонта. Яшчэ ў 1853 г. воды Нёмана так падмылі бераг, што паўдзённая і заходняя частка сьцяны абвалілася ў рэку. Прайшло 35 гадоў і апсыда дзіяконьніка рухнула ў нёманскія воды. Гэтак паўразбураная царква прастаяла да нашых дзён. Мітрапаліт Філарэт дамагаўся, каб сьвецкія ўлады перадалі царкву для БПЦ, каб гэтую беларускую пэрлу зьберагчы, адбудаваць, вярнуць ёй першапачатковы выгляд.



Пастановаю Сынода БПЦ ад 9-га лютага 1990 г. утворана Берасьцейка-Кобрынская епархія. Яе ўзначаліў япіскап Канстантын. Да епархіі належаць раёны: Берасьцейскі, Бярозаўскі, Драгічынскі, Кобрынскі, Жабінкаўскі, Маларыцкі, Пружанскі, Камянецкі.



У 1989 г. была адноўлена Магілёва—Мсьціслаўскя епархія, якая пастановаю мітрапаліта Пятра Магілы, была арганізавана 15 верасьня 1632 г. і падцьверджана граматай караля Уладзіслава IУ ад 14 сакавіка 1633 г. Яе першым іерархам быў хіратанізаваны архімандрыт Сьвята-Духаўскага Віленскага манастыра Язэп Бабрыковіч. Ён памёр 9 красавіка 1635 г., але ў1635 г. быў хіратанізаваны прарэктар Кіеўскай Духоўнай Акадэміі —Сыльвэстар Косаў з тытулам «япіскап Магілёўскі, Мсьціслаўскі, Воршанскі». Калі япіскапа Сыльвэстра ў 1647 г. выбралі мітрапалітам, кафэдра тры гады была вакантнай і толькі 1650 г. хіратанізаваны быў ігумен Ігнат. Магілёва-Мсьціслаўска—Воршанская епархія праіснавала да рэвалюцыі. Цяпер адноўлена й узначалена архіяпіскапам Максімам.

Архіяпіскап Максім нарадзіўся ў 1928 г. у Сібіры, каля Омска. Бацька яго быў арыштаваны і загінуў на будове Беламора—Балтыйскага канала. Дваццацігадовы Максім паступіў у Ленінградскую Духоўную Сэмінарыю. Пасьпяхова закончыў яе і быў накіраваны ў Яраслаўль. Пры першай мажлівасьці пераязджае ў 1958 г. у Жыровіцы,

выкладае гамлетыку. Але ў 1963 г., калі Жыровіцкая сэмінарыя была зачынена, а. Максім назначаецца настаяцелям Сьвята-Духаўскага сабора ў Менску. У 1972 г. адбылася хіратонія й Ул. Максіма паслалі ў Аргентыну, а пазьней перавялі ў Тулу. Зараз ён апякуецца Магілёва—Мсьціслаўскай епархіяй.

У сувязі з адыходам яп. Канстантына на кафэдру Берасьцейска-Кобрынскую, 3 сакавіка 1990 г. у кафэдральным Менскім саборы адбылося нарачэньне архімандрыта Жыровіцкага манастыра, рэктара Духоўнай Сэмінарыі ў Жыровіцах Сьцяпана (Корзуна).

А 4 сакавіка— хіратонія ў япіскапа Пінскага і Лунінецкага, якая адбылася ў Жыровіцкім Сьвята-Усьпенскім саборы.

Вечарам першагерарх БПЦ узьвёў у сан архімандрыта Жыровіцкага манастыра ігумена Гурыя (Апалько), а ерамонаха Сафонія (Юшчыка) у сан ігумена. У Пінска- Лунінецкую япіскопію прыпісаны раёны: Пінскі, Лунінецкі, Баранавіцкі, Ганцавіцкі, Івацэвіцкі, Іванаўскі, Ляхавіцкі і Столінскі.



На пасяджэньні Сыноду БПЦ дня 19 травеня 1990 г. прынята пастанова ўрачыста адзачыць ў цэрквах 5 чэрвеня,



з нагоды 80-й гадавіны перанясеньня мошчаў прэпадобнае сьвятой Еўфрасіньні зь Кіева ў родны Полацак. Таксама Сынод БПЦ вырашыў пытаньне з адкрыцьцём нядзельных школаў для вывучэньня Закону Божага.



У Менскім кафэдральным саборы Сьвятога Духа 22 ліпеня 1989 г. адбылося нарачэньне ігумена Дзьмітрыя ў япіскапа Полацкага і Віцебскага. Хіратонія адбылася ў Сьвята—Усьпенскім саборы Жыровіцкага манастыра. Паклалі рукі на Дзьмітрыя Блажэньнейшы Ігнат IУ, Патрыярх Вялікай Антыярхіі, Мітрапаліт Філарэт, архіяпіскап Максім, япіскап Канстантын і япіскап Філіпапалінскі Ніфон. Найстарэйшая беларуская епархія стала адноўленай. На гэтай гістарычнай падзеі адраджэньня Полацкай япіскопіі прысутнічаў Патрыярх Усяленскі.

Уладыка Дзьмітрый (Драздоў), народжаны ў 1959 г., пастрыгся ў манахі ў Жыровіцкім манастыры ў 1978 г. Пасьпяхова скончыў з навуковым тытулам магістра багасловія Маскоўскую Духоўную Акадэмію. Япіскап Дзьмітрый і падчас нарачэньня сказаў: «У нашай сям'і асабліва шанавалася сьвятая Еўфрасіньня Полацкая, да яе маліліся, заступніцтва прасілі. Яе подзьвіг аказаў на мяне такі вялікі ўплыў, што я прыняў манаства».

Новахіратанізаваны япіскап пастанавіў дамагацца ад сьвецкіх уладаў вяртаньня Спаса—Еўфрасінеўскага манастыра, каб перавесьці ў яго манашак з Жыровіцкага манастыра. Сьвецкія ўлады на вышэйшым узроўні пагадзіліся, мясцовыя-ж пачалі тлумачыць, што няма куды перасяліць людзей, якімі насялілі манастыр. Мітрапаліт Філарэт перадаў 300 000 рублёў сьвецкім уладам на пабудову будынка для гэтых людзей. Чыноўнікі грошы ўзялі, прыабяцалі да ліпеня 1990 г. вырашыць справу. Але 6-га ліпеня 1990 г., калі ў Еўфрасінеўскі манастыр прыехала першая група з 20 манашак, будынак манастыра ня быў вызвалены ад цывільных. Манашкі цярпліва чакалі і маліліся каля мошчаў сьв. Еўфрасіньні, каб у недалёкай будучыні стаць уласьніцамі манастыра, які збудавала князёўна Полацкая, сьвятая і прэпадобня Еўфрасіньня.



У Менскім кафэдральным Сьвята—Духаўскім саборы 28 ліпеня 1990 г. адбылося нарачэньне архімандрыта Арыстарха (Станкевіча) ў япіскапа Гомельскага і Мазырскага. Падчас нарачэньня архімандрыт меў слова: «Мая маці нябожчыца ўзгадавала мяне, каб я верыў у Бога, а настаяцель прыхода ў г. Мазыры а. Аляксей Задэркаўскі дапамог мне палюбіць Царкву. Дзякуючы гэтаму паступіў я ў Адэскую Духоўную Сэмінарыю.

Прага да навукі прывяла мяне ў Маскоўскую Духоўную Акадэмію, якую закончыў з навуковым тытулам. Сёньня я стаю перад Вамі і прашу Вашых малітваў, прашу ўпрасіць беларускіх сьвятых, каб іх ласкавы пакроў, іх малітвы, іх заступніцтва перад Богам дапамаглі мне ў служэньні нашай сьвятой Праваслаўнай Царкве і нашай шматпакутнай Бацькаўшчыне».



У нядзелю, 28 ліпеня ў Сьвята-Усьпенскім саборы Жыровіцкага манастыра адбылася хіратонія Арыстарха. Таінства рукапалажэньня ажыцьцявілі Мітрапаліт Філарэт, архіяпіскап Максім япіскапы Канстантын, Дзьмітры, Сьцяпан. Уладыка Філарэт пасьля хіратоніі зьвярнуўся да япіскапа Арыстарха: «Промыслам Божым, ты вяртаешся ў Беларусь, на зямлю сваю родную Гомельшчыну, як духоўны Ўладыка, як настаўнік ярэям і пастыр свайго народа. Памятай, што ў тваёй епархіі знаходзіца слаўны Тураў, у якім была старажытная кафэдра з славутым япіскапам Кірылам. Нас страшнае гора спаткала, сонца сьвеціць, лясы, сенажаці і палеткі зеленеюць, дзеці бегаюць, людзі працуюць, а нябачная радыяактыўнасьць ўсё забівае. Памятай, царква заўсёды была з народам і ты не пакідай свой народ, асабліва цяпер у такім горы.»

Менская епархія паўстала 13 красавіка 1793 г. Першым яе епархам быў Віктар (Садоўскі). 12 красавіка 1795 г. ён быў узьведзены ў сан архіяпіскапа з тытулам «Архіяпіскап Менскі і Валынскі», але 13-га травеня 1796 г. пераведзены ў Чарнігаў. На Менскую кафэдру быў прысланы архіяпіскап Іова (Пацёмкін), які прабыў на ёй да вайны з Напалеонам.



У 1993 г. Менская епархія будзе адзначаць сваё 200-годзьдзе. Мітрапаліт Філарэт пачаў падрыхтоўку да гэтага юбілею. Ён хоча выдаць тыражом 50 000 экзэмпляраў сьв. Евангельле, перакладзенае на беларускую мову. Ужо зроблены пераклад Евангельля ад Мацея. Праведзены захады, каб Духоўную Сэмінарыю ў Жыровіцах падняць да ўзроўню Акадэміі з правам надаваць навуковыя тытулы студэнтам. Уладыка стараецца дамовіцца зь вядомымі прафэсарамі, каб яны прыязджалі ў Жыровіцы і выкладалі навуку Божую. Таксама Мітрапаліт плянуе пабольшыць колькасьць епархіяў, адчыніць япіскопіі ў Віцебку, Гародні і Мсьціслаўлі.



# Наканаваньне

Васіль Якавенка

Мне асабіста яшчэ не даводзілася пісаць для выданьня, якога пакуль што ня бачыў на ўласныя вочы. Але-ж «Полацак» — гэта такое блізкае, роднае і, дай Бог, яму шчасьлівага наканаваньня. Няхай адкрывае ён беларусу вочы на сьвет і на самога сябе, няхай цешыць кожнага, хто стане ягоным чытачом, ды абагачае добрымі творамі душы, прасьвятляе пачуцьці разуменьнем, што ён Беларус.

Нацыянальнае самаўсьведамленьне беларуса — рэч надзвычай тонкая й няўлоўная, што абумоўлена як самім характарам народу, так і ўмовамі, у якіх ён выхоўваўся, асабліва ў часы гістарычнага «будаўніцтва камунізму». Прыгадваецца сакрамэнтальная фраза Мікіты Сяргеевіча Хрушчова. Спускаючыся неяк па прыступках Беларускага дзяржаўнага унівэрсытэта, ён ашчасьлівіў мясцовых тытулаваных халопаў, якія заўсёды былі рады дагадзіць Маскве, парадай: «Чым хутчэй вы адмовіцеся ад беларускай мовы, тым хутчэй мы прыйдзем да камунізму».

І Беларусь неўзабаве стала ўзорам інтэрнацыяналізму для Цэнтра, тым узорам, на якім нівэліравалася культура іншых народаў, у тым ліку і расейскага. Далібог не будзе перабольшваньня, калі скажу, што ў БССР амаль сем дзесяцігодзьдзяў запар — ад пераможнага ўкараненьня татальнай цэнтралізацыі, культу асобы і масавых рэпрэсій, што выкасілі самы цьвет творчай інтэлігенцыі і зьвялі ў магілу такіх дзяржаўных дзеячоў, як Галадзед, — ня было самавітага ўрада. Нават пры П.М. Машэраву, калі рэспубліка дасягнула найбольшага плёну ў працы й матэрыяльнага дастатку і росквіту, ураду не ставала правоў. Варта было прыняць на рэспубліканскім узроўні, напрыклад, рашэньне аб бясплатным праездзе ў гарадзкіх відах транспарта ўдзельнікаў Вялікай Айчыннай вайны, як Цэнтр прымусіў яго адмяніць, і мы селі макам. Машэраў, дарэчы, быў самым інтэлігентным беларускім партыйным і дзяржаўным дзеячом, абаяльным чалавекам, які цаніў працу творчай інтэлігенцыі, спрыяў разьвіцьцю культуры народа. Разам з тым ідэі глабальнай інтэрнацыяналізацыі, ад якіх ён не мог адцурацца, разбуралі асновы гэтай культуры.

Пра несамавітасьць ураду, пра ягоную бяздарнасьць засьведчыла і Чарнобыль-

ская катастрофа. Атамны рэактар выбухнуў у грамадзтве, якое ўступіла ў глыбокі эканамічны й маральны крызіс: пры гэтым непазьбежнымі сталі нігілізм, адмаўленьне ранейшых куміраў, дэвальвацыя духоўных каштоўнасьцей, дэградацыя асобы.Перабудова ў краіне пачалася пры захаваньні пазыцый адміністрацыйна-бюракратычнай сыстэмы карумпіраванага чыноўніцтва, здольнага за ўсё брацца, але ні за што не адказваць. Увесь верхні паверх кіраўніцтва жыў сваім жыцьцём, аберагаў партыйныя і дзяржаўныя тайны, у лік якіх было занесена і выбуханьне вулканаў.

Чарнобыльскі радыяцыйны вулкан, аднак, не ўдалося схаваць у сэйфах з сакрэтнымі матэрыяламі. Тым ня меньш, першымі кансультантамі пры тушэньні пажару для мясцовых улад сталі не кампэтэнтныя вучоныя, а супрацоўнікі КДБ. Яны-ж апекавалі і вучоных, і мэдыцыну, рабілі перашкоды пры правядзеньні аб'яктыўных, незалежных дасьледваньняў. Сваім «дзяржаўным» клопатам пра здароўе людзей вызначылася ў тыя дні і Міністэрства аховы здароўя СССР. Яно забараняла лекарам ставіць дакладныя дыягназы і зьвязваць хваробы з радыяцыйным апраменьваньнем. Яно дазваляла харчовай прамысловасьці пераапрацоўваць, пускаючы на калбасы, ялавічыну, нашпігованую радыянуклідамі. Вынік: з 27 тысяч тон мяса, што моцна хістала і зашкальвала стрэлкі радыямэтраў, а ім, пачынаючы зь вясны 1986 года, былі забіты халадзільныя камэры Гомеля, Менска, Магілёва, Воршы, засталіся толькі рэшткі — 3 тысячы тон. Але й ім знайшлі прымяненьне. Іх пераапрацавалі ў мясакосную муку і зноў уключылі ў харчовы канвэер, адправілі на корм жывёле. Вядомы й іншыя шляхі распаўсюджваньня радыенуклідаў. Нашы ўлады не рабілі гэтаму аніякіх перашкод. Наадварот, спрыялі таму, стымулюючы вытворчасьць у забруджаных зонах. Нарэшце, Міністр аховы здароўя БССР У.С. Улашчык (цяпер працуе на іншай пасадзе) вымушаны быў прызнаць на адной з рэспубліканскіх нарад (студзень 1990г.), што ўтрыманьне радыенуклідаў у арганізме чалавека выроўніваецца па ўсёй Беларусі, незалежна ад забруджанасьці навакольнага асяродзьдзя. Дый у глебе, верагодна, адбываецца той-жа працэс.

Як відаць, наша дзяржаўная машына працавала ня столькі на радыяцыйную ахову насельніцтва, колькі на захоўваньне тайны, на замоўчваньне нябясьпекі, што пагражала нацыі. Адсюль і супакойваючая мана вучоных, менавіта тых, хто выступаў і выступае ад палітыкі і медыцыны разам. Прыкладна цераз месяц ад аварыі, тагачасны Міністр аховы здароўя БССР М. Саўчанка ў інтэрв'ю газэце «Советская Белоруссия» дакладваў: «Робячы цяпер разьлікі для ўсяго насельніцтва

рэспубліцы, ад самых дрэнных па сваім становішчы да Менска, мы ня бачым ніводнага выпадку перавышэньня дапусьцімага ўзроўню. Абстаноўка ў рэспубліцы нармальная, ва ўсіх раёнах Гомельскай вобласці вядуцца сельскагаспадарчыя працы».

Пасьля такіх заяў мэдыкаў білі ў літаўры газэтныя рэпарцёры, тэле- і радыёжурналісты, услаўлялі гераізм мясцовых жыхароў, якія, ахвяроўваючы сваім здароўем, сеялі, зьбіралі ўраджай, як ні ў чым не бывала. Некалькі гадоў услаўляўся пір пад час чумы. У цэлым-жа, такія паводзіны мэдыкаў прывялі да таго, што парлямэнт Беларусі і беларускі ўрад зразумелі крытычнае становішча свайго народу і падалі сігнал SOS толькі праз чатыры гады пасьля катастрофы.

Ці ёсьць на гэта алібі ў функцыянераў Міністэрстваў аховы здароўя СССР і БССР? Так, заяўляюць яны цяпер. На іх націскалі зьверху, і яны, бачыце, мусілі адрачыся ад свайго прафэсійнага абавязку, ад маральных прынцыпаў, духоўнага я. Яны пакінулі народ у віры доўгачасовага іанізуючага апраменьваньня, нявыяўленых хвароб і вялі па сутнасьці справу да генацыду, да вынішчэньня роду, нацыі...

Другі момант. Маскоўская камісія вызначыла ў 1986 годзе насельніцтву забруджаных вёсак і раённых цэнтраў выплачваць грашовую кампэнсацыю за страты, якія можа прычыніць радыяцыя здароўю. (Нібыта грашыма можна кампэнсаваць страту працаздольнасьці і сьмерць?)... Зьдзелка сама па сабе амаральная. Але-ж я пра іншае. У наступныя гады спэцыялісты выявілі яшчэ нямала паселішчаў з высокім радыяцыйным фонам, толькі там «грабавыя» ўжо не выплачваліся. Чаму? Рэспубліканскі ўрад, кажуць, ня меў паўнамоцтваў зьмяніць што-небудзь у тым кандуіце, зацьверджаным у Маскве.

А сродкі тым часам пускаліся на вецер. Па чыёйсьці выдвары больш за тры гады вялося без усялякага сэнсу будаўніцтва на забруджаных тэрыторыях (яно і цяпер працягваецца). У Хойніках, Нароўлі, Брагіне, Ветцы і па іншых раёнах растуцьвырастаюць новыя жылыя кварталы, пасёлкі, узводзяцца нават дзесяціпавярховыя гмахі... У той-жа час жыхары гэтых забруджаных паселішчаў не могуць дачакацца сваёй чаргі на перасяленьне: не хапае сродкаў пабудаваць падобныя дамы, кварталы, пасёлкі на чыстых тэрыторыях.

І жыцьцё, па-майстэрску разгортваючы сваю панараму батальных сцэн і страсьцей, карыстаецца штораз прыёмамі рэзкіх таноў ды кантрастаў. Вось як бачыш, у знак асаблівых заслуг у справе супакойваньня й усыпленьня розуму свайго народу, які працягвае працаваць на радыяцыйных выжарах, адзначаны Божай ласкай (і

значна ўзняты па службе ) таварышы— Слюнькоў, Пятроў, Кондрусеў, Камай, Крутаўцова, Бур'як... Трое першых прасунуліся пад зоркі Крамля.

З усіх, праўда, найбольш драматычны лёс напаткаў А.С. Камая, які ад самай катастрофы працаваў першым сакратаром Гомельскага абкама КПБ і па тых часах быў галоўным адміністратарам вобласьці. Ён нямала зрабіў, каб, баронь Божа, не зьнізілася вытворчасьць прадукцыі на забруджаных землях, нават у зонах адсяленьня... Гомель адмовіў Камаю ў даверы пры выбарах у народныя дэпутаты СССР. У працоўных многіх раёнаў Гомельшчыны гэты чалавек выклікаў абурэньне і горыч асабліва пасьля таго, як ён выбіўся ў сакратары ЦК КПБ. На некаторых буйных прадпрыемствах Гомеля прайшлі сходы, на якіх калектывы заяўлялі свой пратэст ды патрабавалі суду над былым сваім «лідэрам». Але-ж праўду кажуць: пана клянуць, а ён тлусьцее. Пагаварваюць, што Масква хацела прапанаваць яго канды датуру на пасаду першага сакратара...Але, не склалася, аднак, тая рахуба. Відаць, толькі па комплексу грамадзянскай глухаты, у спалучэньні з прагай да славы, былы міністр М. Саўчанка, стаўшы пенсіянерам, узначаліў таварыства міласэрнасьці.

Колькі год над галовамі грамадзян, якія пацярпелі ў Чарнобыльскай катастрофе, узвышаўся нябачны саркафаг, сплецены з маны пэўнай часткі палітыкаў і вучоных. Парушыць і разбурыць яго ў рэспубліцы не было магчымасьці—цэнзура пільна сачыла за тым, што ішло ў друк. У гэтых умовах складаная й адказная задача паўстала перад пісьменьнікамі, якія былі пасьвечаны ў тайны Чарнобыля.

Алесь Адамовіч выступіў з артыкулам «Честное слово, больше не взорвется» («Новый мир», 1988, №9). На жаль, ягоны артыкул апанентам удалося нейтралізаваць. Другі ўдар выпала нанесьці аўтару гэтых нататак. «Литературная газета» надрукавала мае выступленьне на студзеньскім 1989 г. пленуме Саюза пісьменьнкаў СССР. Нарэшце, ў глухой і тоўстай сьцяне чарнобыльскай тайны ўтварыўся пралом. Упершыню краіна даведалася аб трагэдыі, якая навісла над беларускім народам. Адсюль пачыналася галоснасьць аб Чарнобылю. Чыноўнікі дзяржаўнага апарату былі прымушаны рассакрэціць карты і матэрыялы па так званай ліквідацыі вынікаў аварыі.

Безумоўна, адыгралі сваю ролю сходы і мітынгі працоўных, навуковыя канфэрэнцыі. 3 травеня 1989 г., калі ўжо быў прабіты шлях да галоснасьці, актывізаваліся вучоныя АН БССР і сталічнага унівэрсытэта. Увосень 1989 г. Беларускі Народны Фронт наладзіў у Менску грандыёзную маніфэстацыю «Чарнобыльскі шлях» якая замацавала новыя рубяжы і сілы грамадзкасьці. Прайшоў яшчэ адзін год.

Адбыліся зьмены ў беларускім урадзе, абнавіўся парлямэнт Рэспублікі. Працьверазелі палітыкі. Падалі на ўвесь сьвет сыгнал SOS. Зразумела, пад ціскам грамадзкасьці . Але позна той сыгнал прагучаў. Як сказаў вядомы амэрыканскі вучоны й літаратар Л.Райфл, які восеньню 1989 наведаў Менск: «Пачынаючы з 1986 года, ў Злучаных Штатах амаль нічога не ведалі пра аварыю на Чарнобыльскй АЭС, а цяпер аб гэтай катастрофе забылі». Лета 1990 года прынесла беларускаму парлямэнту й ураду некаторыя палітычныя дэвідэнты. Яны заявілі пра свой выбар, прынялі Дэклярацыю аб Сувэрэнітэце і па сёняшні дзень яшчэ не адцураліся ад надзеі самастойна гаспадарыць у межах рэспублікі. Толькі мяне не пакідае трывога: ці хопіць у сёняшніх нашых лідэраў мудрасьці, дыпляматыі, уменьня пастаяць за свой народ? Ці вытрымаюць яны? Пажывем — пабачым. Безумоўна, у кіраўнікоў рэспублікі цяпер вялікія цяжкасьці, найперш з такім запозьненым перасяленьнем соцен тысяч людзей чарнобыльскй зоны. Надта марудна абсталёўваюцца і наву кова-дасьледчыя цэнтры, бальніцы. Пакуль што ня створана адзіная рэспубліканская сыстэма радыяцыйнага маніторынгу. Тым няменш сьвет дапамагае нам, вязьням чарнобыльскага палігону, і за гэту ласку мы ўдзячны добрым, спагадлівым людзям.

Скажу яшчэ, што ў палітычным калаўроце цяпер значную ролю адыгрываюць грамадзкія арганізацыі. А калі мець на ўвазе дапамогу пацярпеўшым, то ў ёй бяруць удзел **Чырвоны Крыж, Савецкі фонд міру, Таварыства дружбы і культурнай сувязі з замежнымі краінамі**, і найноўшыя арганізацыі: **Саюз імя П.М.Машэрава «Зьніч», Беларускі экалягічны саюз,** камітэты «**Дзеці Чарнобыля»** (іх зараз некалькі) і **Сацыяльна- экалягічны саюз «Чарнобыль»**, які я ўзначальваю. Беларускі сацыяльна-экалягічны саюз «Чарнобыль» зьбірае сродкі, вывучае ўмовы будаўніцтва спэцыялізаванага санаторыя маці й дзіцяці. Шукае магчымасьці для ўкараненьня мэтаду біялягічнай дазымэтрыі ў практыку мэдыцынскай дыягностыкі. Рыхтуе пры падтрымцы фундатарў з Расеі й Украіны выданьне новай міжрэспубліканскай газэты «Набат». Выпуск першага нумара штотыднёвіка «Набат» адбыўся ў сакавіку гэтага года. Яго зьмест вызначыла сацыяльна-экалягічная тэматыка. Мяркую, што наша газэта можа не толькі зацікавіць, але і стаць неўзабаве надзейным сябрам беларусаў, якія жывуць за акіяням. Чакаем з-за мяжы і сваіх карэспандэнтаў.

Як бачыце, наша выданьне з «Полацкам» амаль равесьнікі. Таму яшчэ раз шчырае і сардэчнае прывітаньне «Полацку» ад «Набата» — разам будзем разьвіваць добрыя суседзкія і сваяцкія адносіны ў імя духоўнага росквіту свайго народу.

# Чарнобыль: спроба аналізу сітуацыі

Ірына Кісялёва

У рэспубліцы ёсьць інстытуты —радыёбіялёгіі, ядзернай энэргетыкі, генэтыкі, заалёгіі, глебазнаўства й інш. Усе яны: адны болей, іншыя меней—распрацоўваюць пытаньні ўзьдзеяньня радыяцыі на жывы арганізм. Ёсьць такcама службы Гідрамэта, існуе штаб Грамадзянскай абароны. Пасьля выбуху на Чарнобыльскай АЭС трэба было неадкладна склікаць спэцыялістаў, каб параіцца і прыняць правільнае рашэньне. Неабходна было:

Зьвярнуцца да народа і растлумачыць сытуацыю. Азнаёміць насельніцтва Беларусі з неабходнымі прафілактычнымі захадамі. Стварыць з дапамогай кампэтэнтных спэцыялістаў, актыўных арганізатараў Штаб па праблемах Чарнобыля, каб сумесна і кампэтэнтна вырашаць усе праблемы.

Правесьці ёдавую прафілактыку.

Перавезьці на лета ( з травеня месяца) мацярок зь дзяцьмі ва ўсе рэспубліканскія санаторыі, прафілакторыі й іншыя базы адпачынку, разам з тымі, што належылі да лечкамісіі Чацьвёртага ўпраўленьня.

----------------------------

Працяг. Пачатак у №2.

Зьвярнуцца да саюзных рэспублік з просьбай узяць на лета дзяцей.

Распрацаваць і прыняць пастанову аб кампэнсацыі і дапамозе тым, хто жадаў-бы самастойна зьмяніць месца жыхарства.

Спыніць пералічэньне сродкаў у дзяржаўны бюджэт, пакуль не былі-б вырашаны ўсе Чарнобыльскія праблемы.

Адмовіцца ад сельскагаспадарчых працаў на забруджаных тэрыторыях.

Прыпыніць усе будаўніцтвы і рамонт партыйна-дзяржаўных будынкаў, накіраваць увесь будаўнічы матэрыял на будаўніцтва пасёлкаў на чыстых землях.

Зьвярнуцца за дапамогай да ўсіх саюзных рэспублік і замежных краінаў. (Частку валюты Рэспубліка магла зарабіць і сама, калі-б дазволіла вучоным іншых краінаў праводзіць на забруджаных тэрыторыях экалягічныя назіраньні й экспэрыменты).

Але ўрад Беларусі на чале з ЦК КПБ пайшлі па іншаму шляху — шляху дэклярацыі, дэмагогіі і хлусьні. Усё, што рабілася на працягу амаль 5 гадоў, дае падставу меркаваць, што над насельніцтвам Беларусі праводзіўся экспэрымент.Сусьветная навука атрымае каштоўнейшы матэрыял па ўзьдзеяньню

малых дозаў радыяцыі пры ўнутраным апраменьваньні. Мы-ж будзем суцяшацца тым, што ў наступным тысячагодзьдзі чалавецтва ацэніць нашу ахвяру ў імя навукі.Хлусьлівыя заявы аб тым, што ніхто з ўрада ня ведаў аб узьдзеяньні радыяцыі, бо былі ўжо Невада,Чэлябінск, Сяміпалацінск і Новая Зямля.

ваться зона с сумарными дозами гамма-излучения, превышающая 400-1000 бер... Заражение местности составит до 4—10 кюри на км$^2$... Указанные дозы и загрязнения весьма велики и опасны для человека....» ( Ю.А. Израэль. Экология и контроль состояния природной среды. М., 1984, б.477)



У 1984 г. 2-м дададзеным выданьнем выйшла ў сьвет кніга «Экология и контроль состояния природной среды». Яна была удастоена Залатога мэдаля АН СССР імя Сукачэва. Аўтар кнігі— доктар фізіка-матэматычных навук, прафэсар, лаўрэят Дзяржаўнай прэміі СССР, віцэ-прэзыдэнт Сусьветнай мэтэаралягічнай арганізацыі, старшыня Дзяржаўнага камітэту гідрамэта СССР Ю.А.Ізраэль. Ён пісаў у ёй, што пры ядзерным выбуху магутнасьцю 5000 Мт «...может образо-

У сувязі з гэтым узнікаюць пытаньні.

Першае: **якая сапраўды была магутнасьць выбуху і шматдзённага пажару на 4-м блоку ЧАЭС, калі ажно ў Магілёўскай вобласьці забруджаньне асобных тэрыторый дасягнула не 4, не 10, а 1000 кюры на км$^2$** (палеткі саўгаса **«Знамя» Чэрыкаўскага** р-на)?

Пытаньне другое: **чаму ўказаная Ізраэлем шчыльнасьць забруджаньня тэрыторыі ў 4-10 кюры на км$^2$ у 1984 г. лічылася небяспечнай для чалавека, а**

**пасьля 1986 г. стала дапушчальнай для пражываньня дзяцей (нават немаўлятак) і вытворчасьці сельскагаспадарчай прадукцыі шчыльнасьць забруджаньня ў 40, 80, 149 кюры на км$^2$?**



На нарадзе ў Палацы прафсаюзаў ад 2 лютага 1989 г. мы задалі пытаньне кіраўніку Беларускага гідрамэта Ю.Пакумейка: «Калі вы даведаліся аб радыяцыйнай абстаноўцы ў рэспубліцы?

— 28 красавіка, —быў адказ.

—Чаму тады не была адменена першамайская дэманстрацыя на забруджанай тэрыторыі?

—Гэта не ўваходзіла ў нашую кампэтэнцыю. Але мы ўраду дакладвалі.

Тыя-ж пытаньні задалі і начальніку Рэспубліканскага штаба Грамадзянскай абароны А.Грышагіну. Адказ быў такім-жа: «Не ўваходзіла ў кампэтэнцыю». «У чыю кампэтэнцыю тады-ж яно ўваходзіла?».«У кампэтэнцыю ўрада». «Савета Міністраў?» Паўза. «Не». «У кампэтэнцыю ЦК КПБ?» Маўчаньне.

У красавіку 1990 г. на канфэрэнцыі саюза «Чарнобыль» старшыня Беларускага гідрамэта сказаў, што аб існаваньні паўночнай плямы на Магілёўшчыне было вядома да 1-га травеня 1986 г. У чэрвені ўжо былі карты радыяцыйнага забруджаньня па Гомельскай і Магілёўскай абласьцях, прычым па кожным раёне. Аднак да 1989 г. жыхары нават зон жорсткага кантролю нічога ня ведалі аб сапраўдным становішчы.

А ў гэты час урад выконваў рэкамендацыі акадэміка Л.І. Ільіна, ігнаруючы меркаваньні вучоных АН БССР. Экспэрэментуючы над нашым насельніцтвам, Ільін прапанаваў спачатку канцэпцыю 90, потым 70, пасьля 35 бэр за жыцьцё. Тры канцэпцыі на працягу 3-х гадоў прапаноўваў не малодшы навуковы супрацоўнік , а акадэмік!

А вось як расцэньвае дзейнасьць урада БССР былы першы намесьнік старшыні Саўміна БССР і старшыня Камісіі па ліквідацыі вынікаў аварыі на ЧАЭС В.Еўтух (сёньня ён ужо пенсіянер

усесаюзнага значэньня).

Той апублікаваў пад занавес сваёй дзейнасьці споведзь пад назвай «Мне няма за што чырванець» («Праца, № 16, 1990г.), у якой напісаў: «...з моманту аварыі пытаньні...забеспячэньня бясьпекі насельніцтва пастаянна знаходзіліся ў цэнтры ўвагі ЦК КПБ і ўрада рэспублікі.Пыта-ньнямі гэтымі актыўна займаўся былы першы сакратар ЦК КПБ М. Слюнькоў. Пільную ўвагу гэтай праблеме ўдзялялі Г.Таразевіч,... М.Кавалёў, ... Я. Сакалоў».

Першымі мерапрыемствамі па «забеспячэньні бясьпекі» сталі першамайскія сьвяты на свежым паветры, у якіх удзельнічалі дзеці. На жаль, у тыя дні было вельмі добрае надвор'е.

Расказвае член-карэспандэнт АН БССР В.Несцярэнка (ён быў у той час дырэктарам інстытута ядзернай энэргетыкі). Аб аварыі на ЧАЭС ён даведаўся 28 красавіка 1986 г. у Маскве, дзе быў у камандзіроўцы. Каля 10 гадзінаў раніцы ён пазваніў Слюнькову і растлумачыў абстаноўку. Раніцай 29-га ён быў у сваім інстытуце. Яго супрацоўнікі ўжо атрымалі першыя замеры глебы з паўдзённых раёнаў Беларусі, прадукты харчаваньня. Аналіз вызначыў характар ізатопаў. У гэты дзень атрыманую інфармацыю Несцярэнка перадаў Слюнькову, а на наступны—дакладваў аб іх Саўміну, прысутнічалі: Старшыня Саўміна М.Кавалёў, Міністр аховы здароўя БССР акадэмік М.Саўчанка, галоўны санітарны ўрач рэспублікі Піўчэнка, намесьнік Старшыні Саўміна Мазай, начальнік штаба Грамадзянскай абароны А.Грышагін, мэр горада В.Міхасёў.



Несцярэнка выказаў думку спэцыялістаў: безадкладна правесьці ёдную прафілактыку, абмежаваць знаходжаньне людзей на адкрытай мясцовасьці, не загараць, не хадзіць у лес, забараніць перадсьвяточны гандаль на вуліцах, у тым ліку на рынках, вымыць гарады.

Адразу пасьля яго даклада, з таго-ж самага кабінета, дзе адбывалася нарада, акадэмік М.Саўчанка пачаў тэлефанаваць у Маскву віцэ-прэзыдэнту АН СССР Л.Ільіну: «Трэба або ня трэба праводзіць ёдную прафілактыку?»

—Ня трэба,— адказаў акадэмік .

Несцярэнку параілі адпраўляцца ў свой інстытут і займацца справамі. Аднак ён не супакоіўся. 30 красавіка перадаў Слюнькову «Дакладную запіску» (№ 588). Прыблізна ў той-жа час М.Саўчанка з экрана тэлевізара супакойваў насельніцтва: для хваляваньняў няма падставы. Можна купацца, загараць, як звычайна. Толькі галаву ад сонца неабходна прыкрываць.

У першых днях травеня група супрацоўнікаў інстытута ядзернай энэргетыкі з групай медыкаў выехалі ў Хойніцкі і Брагінскі раёны. Дасьледвалі дзяцей, дарослых, глебу, лясныя масівы. Усё казала аб велізарнасьці катастрофы. 7 травеня В.Несцярэнка перадае Слюнькову чарговую «Дакладную запіску» ( № 621) , у якой папярэджваў аб небясьпецы радыёактыўных ізатопаў, аб узроўні забруджанасьці палеткаў, прадуктаў харчаваньня ў некаторых раёнах Беларусі.

Аб гэтым самым папярэджваў і Белгідрамэт. У першыя дні пасьля аварыі ім быў арганізаваны цэнтр радыяцыйна-экалягічнага кантролю, лабараторыі якога пастаянна зьбіралі пробы паветра, вады, глебы, праводзілі гамаздымкі мясцовасьці пры дапамозе самалётаў і верталётаў. Матэрыялы абагульняліся, перадаваліся ўраду. Ёсьць і іншыя факты, якія падцвердзяць тое, што ўрад быў добра інфармаваны аб памерах небясьпекі. Так, напрыклад, А.Камай (тады яшчэ сакратар Гомельскага абкама КПБ,) калі спрабаваў абвінаваціць вучоных, якія, маўляў, своечасова аб гэтай небясьпецы не папярэдзілі, атрымаў адказ Ю.Ізраэля :

«З першых дзён чарнобыльскай трагедыі разам з групай спэцыялістаў медыкаў і іншых вучоных, у якую ўваходзілі прадстаўнікі вашай рэспублікі, мы працавалі...па ўдакладненьню радыяцыйнай абстаноўкі. Амаль 10 сутак з рэактара выкідвалася вялікая колькасьць радыяактыўных рэчываў... І тэарэтычна, і практычна струмені радыеактыўных газаў маглі забрудзіць любы горад і вёску... У ноч на 27 красавіка радыяцыйная абстаноўка рэзка пагоршылася...» (Советская Белоруссия 14.03.89)

У выдавецтве «Полымя» была заплянавана да выданьня кніга гомельскага аўтара А.Атрушкевіча «Туристические маршруты Гомельщины». У мяне, рэдактара гэтага рукапісу, узніклі сумнівы: ці мажліва наогул пасьля аварыі запрашаць да падарожжа па

Гомельскай вобласьці? З гэтым пытаньнем летам 1986 г. мы зьвярнуліся да Міністэрства аховы здароўя рэспублікі. Рукапіс на азнакамленьне ўзяў намесьнік міністра А.Томашаў. Калі праз пару дзён я прыйшла ў яго кабінет, ён дастаў з сэйфа карту, паклаў яе на стол і прыціснуў кнігамі, як мне здалося, спэцыяльна на тым месьце, дзе былі Магілёўская і Брэсцкая вобласьці. Аднак я пасьпела заўважыць, што амаль уся яна зьмяшчала чырвоныя трохкутнічкі. Я расчыніла сваю карту. Аркадзь Канстантынавіч сказаў, што з рукапісу неабходна зьняць 11 маршрутаў: « Ад Лоева да Ельску правядзіце радыус і пастаўце на ім крыж, туды ні кроку! Пастаўце крыж на Ветцы і на Новых Грамыках. Уніз ад Гомеля па Сожу гуляйце, але ўверх—ні кроку».

—Як-жа тады ўніз па Сожу гуляць, лавіць рыбу, калі забруджаная радыянуклідамі вада цячэ зьверху? І чаму тады на палях Брагіншчыны аруць?

—Гэтае пытаньне не да мяне. Гэта палітыка...—адказаў ён.

У першыя дні пасьля аварыі ўраду было вядома пра забруджанасьць рэчак Беларусі, у першую чаргу басэйна Прыпяці і Сожа. Іх воды забрудзіліся сьцёкамі з паверхні. Але Брэсцкая воб. засталася без ўвагі (Столінскі, Лунінецкі, Іванаўскі раёны). Даверлівыя жыхары не маглі прыпусьціць, што іх могуць так ашукваць. Таму іх не вельмі насьцярожыў факт, што ў магазінах многіх населеных пунктаў, нават у г. Бяроза, доўгі час прадавалася малако з рэкамендацыяй «Толькі для дарослых». Не насьцярожылі і зьвесткі аб выкананьні працаў па ахове водных рэсурсаў ад радыяактыўных рэчываў.

31.10. 1986 г .«Правда»:

« В верхней части Киевского водохранилища — громада земснаряда. Он пришел из устья Днепра для строительства подводной запруды в 450 м поперек фарватера. В ней выемка (100 м ширина, 16 м глубина). Это — ловушка для радионуклидов, котрые могут попасть из Припяти. Вопрос рассматривался в ЦК КПСС.

«Аргументы и факты» (№33-34, 1986 г.)

«На четыре теплохода —сухогруза были погружены 7200 т сорбента, которые в течение трех суток сбрасывали в воды Припяти. Уровень радиоактивности воды понизился еще, подтвердил возможность очистки больших объёмов воды.»

«Праз некалькі дзён пасьля аварыі, — скажа потым былы намеснік Старшыні Саўміна БССР Ю.Хусаінаў,—Дзяржаграпром рэспублікі разам з Мінздравам БССР пачаў распрацоўваць канцэпцыю вядзеньня сельскагаспадарчых працаў на забруджанай зямлі». ( «Советская Белоруссия» 9.02.1989)

(Працяг у наступным нумары)

# Гадавы царкоўны сход

адбыўся 3 сакавіка ў царкве Жыровіцкай Божай Маці ў Кліўлендзе. Галоўнымі пытаньнямі павесткі дня былі: справаздача старшыні царкоўнага камітэту Сяргея Карніловіча, справаздача рэвізыйнай камісіі, зацьвярджэньне бюджэта на 1991 год.

—Мінулы год быў знамянальным у жыцьці нашай арганізацыі, — адзначыў Сяргей Карніловіч у сваёй прамове.— Пабудавана заля «Полацак», адбылася XIX сустрэча беларусаў Паўночнай Амэрыкі. Разам з тым 1990 год унёс у наш бюджэт нямалыя расходы. Каля 30 тысяч пайшло ў час XIX сустрэчы, каля мільёна каштуе наша заля. 10 тысяч царкоўны камітэт перадаў Уладыку Мікалаю на Чарнобыльскую справу. Але мы задаволены гэтым годам. Шмат добрых справаў зроблена за гэты час.

Пасьля ўсіх справаздачаў абмяркоўваўся бюджэт на 1991 г. Была прызначана сума —41 тысяча. Таксама выбралі царкоўны камітэт. Вырашылі, заставіць яго леташнім, але пабольшыць на 2 чалавека. Пасьля галасаваньня ў яго увайшлі: Сяргей Карніловіч — старшыня, Віктар Страпко — заступнік старшыні, Вольга Дубаневіч (McDermott)—сакратар, сябры —Вольга Міхальчык, Янка Ханенка, Валянтына Ягаўдзік, Эва Яраховіч, рэфэрэнт па культурным пытаньням — Лідзія Лазар—Ханенка.

# А на вялікдзень ды на першы дзень,

Зялёны явар, зялёны!

Зьбіраліся хлопцы, удалыя малойцы...

Ды ішлі па хатах, віншавалі гаспадароў з вялікім сьвятам вясны—Вялікаднём.Некалі нашыя продкі вельмі ўрачыста адзначалі дзень абуджэньня прыроды і надыходу «вялікіх дзён» палявых прац. Яны гатавалі скаромныя стравы, ладзілі гульні, сустракалі сонца, чакалі валачобнікаў. Пазньей да гэтага дня далучылі і галоўнае царкоўнае сьвята — «Увасрэсеньне» распятага Хрыста, якое і дайшло да нашых дзён.

Вечарам 6 красавіка ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе сабралося шмат моладзі. У сьв. Літургіі прымалі ўдзел а.Міхась Страпко й а.Якуб. Перад поўначу пачаўся хрэстны ход вакол царквы. Кожны трымаў у руцэ, быццам-бы маленькую зорачку, трапяткую сьвечку. Усе сьпявалі «Хрыстос васкрос із мёртвых»

Пасьля службы, якая скончылася а 4-й, адбылося высьвячэньне кошыкаў, у якіх абавязкова ляжалі духмяная пасха і рознакаляровыя пісанкі. Самые стойкія прыхажане Царквы Жыровіцкае Божае Маці засталіся і на разгаўленьне.

# 40 гадоў

адзначаюць беларусы Кліўленда 25 сакавіка. Але сёляшняе сьвята для іх — асаблівае. Упершыню гадавіна абвяшчэньня БНР ладзілася ў новай залі «Полацак» . У ёйжа адбывалася і нядзельная служба. Яе ўрачыста вялі а.Міхась Страпко і а.Якуб, а таксама прыляцеўшы з гэтай нагоды з Фларыды а.Аляксандр Радэнковіч .

Пасьля службы адбыўся банкет і акадэмія. Павіншаваць кліўлендцаў зь Днём Незалежнасьці прыйшлі прадстаўнік кабінета губэрнатара шт.Агаё **August B.Pust, Special Assistant for Multicultural Affairs office of the Covernor G.Voinovich** , а ад мэра горада Клеведанд—**Sam Thomas** III, **Community Reletions.**У сваіх прывітаньнях яны адзначылі, што 25 сакавіка аб'яўлены ў Каламбусе і Кліўлендзе Днём незалежнасьці Беларусі, а бел-чырвона-белы сьцяг будець лунаць перад губэрнатарскім домам і гарадзкой ратушай. Вялі акадэмію Янка Ханенка і Лідзія Лазар—Ханенка. Вядучая зачытала праклямацыі, якія даслалі губэрнатар **George V.Voinivich** і майор г.Кліўленда **Michael R.White,** прывітаньні ад **Howard M.Metzenbaum United States Senator,** кангрэсмэнкі **Mary Rose Oakar,** а таксама ад Галоўнай Управы БАЗА, Беларускага Кангрэсавага Камітэта Амэрыкі, Каардынацыйнага камітэта Беларусаў Канады, Згуртаваньня Беларуска-Амэрыканскіх вэтэранаў, Беларускага Каардынацыйнага Камітэта ў Чыкага, камітэта ў Лёс Анжэлесе, Беларускай праграмы радыё Ватыкана, аддзела БАЗА ў Нью Ёрку. Старшыня Рады БНР др. Я.Сажыч асабіста прывітаў прысутных. Пасьля прывітаньняў слова ўзяў Міхась Белямук.

—Сакавік,—адзначыў прамоўца,—у гісторыі беларускага народу зьяўляецца асаб лівым. 4 сакавіка 1067 г. адбылася бітва на Нямізе. У сакавіку 1525 г. Скарына выдае Апостал. 10 сакавіка 1864 г. ў Вільні павесілі правадыра паўстаньня Кастуся Каліноўскага.... Нарэшце, дня 25 сакавіка 1918 г. Рада выдае III Устаўную грамату, якой абвяшчалася: «Мы, Рада БНР, скідаем з роднага краю апошняе ярмо дзяржаўнай залежнасьці, якое гвалтам накінулі расійскія цары на наш вольны і незалежны край.»

Народ наш ня мог зьдзейсніць сваю волю, стаць вольным і незалежным, але народ наш не выракся ад ідэі змаганьня, —падкрэсліў Міхась Белямук.— Гэтае змаганьне пачатае 73 гады назад працягваецца і сёньня.

На завяршэньні сьвята хор «Васілёк» выканаў некалькі нацыянальных песьняў.

# Сьв. памяці Антона Канончука



Нарадзіўся ён 20 ліпеня 1914 г. у вёсцы Патока Беластоцкага ваяводства, а адыйшоў на вечны супакой 13 красавіка 1991 г. Паховіны адбыліся ў царкве Жыровіцкае Божае Маці ў Кліўлендзе з удзелам прат. Міхася Страпко й ер-ман. Якава. Пахаваны на беларускім мо-гільніку, Рыверсайд, сэкцыя 25, пляц 305, № 1.

Нябошчык Антон быў маім кумам і добрым сябрам. Пазанаў я яго ў 1948 г. і ад яго даведаўся, што бацькі хацелі, каб сын быў кавалём. Паклікалі Антона ў польскае войска і навучыўся ён кавальскай справе. А калі вярнуўся да хаты, адчыніў кузьню. І пайшла па ваколіцы гаворка пра здольнага каваля. На жаль, у сакавіку 1939 г. забралі Антона зноў у войка, адаслалі аж пад чэшскую мяжу, дзе ён і трапіў у палон да немацаў. Працаваў як палонны ў Саксоні, якую неўзабаве захапіла Чырвоная армія. Паслухаў Антон расказаў чырвонаармейцаў аб тым, што чакае трапіўшых у нямецкі палон, ды вырашыў прабірацца на захад. Пашчасьлівіла яму трапіць ў амэрыканскую зону акупаванай Нямеччыны. Там ён і трапіў у беларускі лягер каля Каму. Пазнаў там прыгожую беларуску Тацьцяну Пра-капові́ч , зь якой у лістападзе 1945 г. узяў шлюб і дачакаўся дзетак Галіну і Андрэя.

У 1950 г. Антон з Тацьцянай і шваграм Адамам Пракаповічам прыхалі ў Кліўленд і сталі актыўнымі сябрамі БАЗА і прыхажанамі прыхода царквы Жыровіцкае Божае Маці. У 1957 г. Антона выбралі старшынёй Царкоўнай рады, а настаяцелям у той час быў а. Мікалай Макарэвіч. Антон пастанавіў знайсьці пляц, каб на ім пабудаваць царкву. Дня 5 сьнежня 1957 г. Антон Канончук і Валодзя Дунец падпісалі купчу пляца з домам. У 1959 г. на гэтым пляцы пачалася будова мураванае царквы, якую высьвяціў Уладыка Васіль 4 верасьня 1960 г.

Нябожчык пакінуў у суме жонку, дачушку, сыночка, швагра і ўсю нашу грамаду. Няхай яму будзе пухам зямелька Амэрыканская, якая гасьцінна прыняла яго. З шчырымі малітвамі за яго душу. Сям'я пратаерэя а. Міхася Страпко.



Падзеі, якія адбыліся ў Менску 3-4 красавіка, мелі свой працяг. Забаставалі Ворша, Гомель, Віцебск, Бярэсьце, Горадня, Салігорск, Жодзіна і іншыя гарады. 23 красавіка ў Менску баставала 42 прадпрыемства. 24—рабочыя зноў выйшлі на плошчу Леніна. Да іх далучыліся прадстаўнікі адміністрацыі заводаў, некаторыя дырэктары прадпрыемстваў. 21 травеня плянуецца правесьці агульнабеларускі штрайк. Што будзе заўтра?



# Царква Жыровіцкае, Божае Маці ў Кліўлендзе

# Executive Department

OFFICE OF THE GOVERNOR

*Columbus*

RESOLUTION

WHEREAS, Byelorussians in Europe are fighting to preserve their language, culture and independence; and

WHEREAS, On March 25, 1991, Byelorussians all over the world will mark the 73rd anniversary of the Proclamation of the Independence by the Byelorussian National Republic; and

WHEREAS, The Byelorussian-American Association of Cleveland will commemorate the 73rd Anniversary of the Proclamation of the Independence by the Byelorussian National Republic on March 24, 1991;

THEREFORE, I, George V. Voinovich, Governor of the State of Ohio, hereby designate March 25, 1991 as

73RD ANNIVERSARY OF THE PROCLAMATION OF INDEPENDENCE BY THE BYELORUSSIAN NATIONAL REPUBLIC

throughout the State of Ohio, and invite all Ohio's multi-cultural communities to join in appropriate observances and in paying tribute to the vital role, past and present of the Byelorussian community in all avenues of endeavor, and in fostering cooperation between all segments of our indivisible multi-ethnic communities.

ON THIS 20TH DAY OF MARCH, 1991;

George V. Voinovich
Governor of the State of Ohio





# Proclamation

## From United States Senator

## Howard M. Metzenbaum

*WHEREAS: On this day of March 24, in the year 1991, The Byelorussian-American Association will commemorate the 73rd Anniversary of the Proclamation of Independence by the Byelorussian Republic; and*

*WHEREAS: Though the Republic was crushed by the Soviet Army, the memory of this gallant effort will live on in the hearts of the Byelorussian people; and*

*WHEREAS: Freedom is a state of being that cannot be too highly prized. It is a goal that all must continually strive for; and*

*WHEREAS: Due to the breath-taking changes in eastern Europe, which have set the stage for fundamental structural changes in the Soviet Union, this goal of Byelorussian Independence may still be realized in the not so distant future.*

*THEREFORE BE IT RESOLVED: That I salute the Byelorussian-American Association on this historic occasion.*

*Howard M. Metzenbaum*
*United States Senator*



# Congress of the United States
**Washington, DC 20515**

For: THE 73rd ANNIVERSARY OF THE PROCLAMATION OF THE INDEPENDENCE OF THE BYELORUSSIAN NATIONAL REPUBLIC

By: CONGRESSWOMAN MARY ROSE OAKAR

WHEREAS, Congress is especially pleased to note the 73rd Anniversary of the Proclamation of the Independence of the Byelorussian National Republic, which is being celebrated by the Byelorussian-American Association of Cleveland, at the Byelorussian-American Cultural Center - 11022 Webster Road, Strongsville, Ohio - on Sunday, March 24, 1991; and

WHEREAS, The members of the Byelorussian-American Association annually mark the Independence of Byelorussia and join with Byelorussians around the World to preserve their language and culture; and

WHEREAS, All Byelorussians stand together in their struggle for Freedom and Independence for Byelorussia; now, therefore

BE IT RESOLVED, That the Congress of the United States congratulates the Byelorussian-American Association of Cleveland, as they celebrate the 73rd Anniversary of the Proclamation of the Independence of Byelorussia, and wishes them continued success in the future.




Mary Rose Oakar

MARY ROSE OAKAR
Member of Congress
20th District - Ohio

# City of Cleveland

**MICHAEL R. WHITE, MAYOR**

# Proclamation

*Designating March 25, 1991, as*

*"BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY"*

*The Byelorussian-American Association of Cleveland is observing the 73rd Anniversary of the Proclamation of Byelorussian Independence with a dinner and commemorative program at the Byelorussian Independence-American Cultural Center, Sunday, March 24, 1991, beginning at 1:30 p.m.*

*On March 25, 1918, in the capital city of Minsk, the Rada and its Executive Council solemnly proclaimed the independence of Byelorussia, but the young Republic soon became a victim of Soviet imperialism and brutal occupation.*

*Since that time, the Byelorussian people have been deprived of political and religious freedom in their homeland. Despite persecution, the Byelorussian patriots have continued to fight for the re-establishment of their God-given rights and independence. Today, Byelorussia is a member of the United Nations, not as a free country, but under Soviet control.*

*I am honored to join with the citizens of Cleveland in extending this warm expression of best wishes to John Chanenka, President of the Byelorussian-American Association of Cleveland, the other officers and members as they commemorate this historic day in the lives of all Byelorussians.*

*NOW, THEREFORE, I, Michael R. White, the 54th Mayor of the City of Cleveland, do hereby proclaim March 25, 1991, as "BYELORUSSIAN INDEPENDENCE DAY" in Cleveland. I have issued an Executive Order to display the Byelorussian flag above City Hall on this day. I urge all citizens to join me in wishing for those of Byelorussian heritage in this city, state, and nation, freedom for their beloved homeland.*



*IN WITNESS WHEREOF, I have set my hand and caused the Corporate Seal of the City of Cleveland to be affixed on this 25th day of March in the year 1991.*

*MAYOR*

## У рэдакцыю часопіса «Полацак» прыслалі $:

Абрамчык М. 12. Акула К. 6. Азарка Я. 12.

Бахар М. 6. Беленіс А. 12. Белямук М. 3 000. Балтрушэвіч В 13.

Варабей К. 10. Вініцкая К. 15. Ворт (Ваицехоускі) К. 10. Вярбіцкі К. 6.

Галоўка М. 78. Галяк Р. 15. Ганько М. 6. Гасьцеяў Ю. 10. Грабінскі Б. 6.50. Грынкевіч К. 20. Грыцук В. 6. Гутырчык С. 12.

Даніловіч А. 6. Даніловіч Б. 12. Данілюк Б. 6.50. Дубаневіч Т. 5.

Жук-Грышкевіч Р. 12. 50.

Занковіч Е. 6.50.

Іванко Ц. 5.

Кажан В. 50. Кажура П. 12. Калоша К. 30. Каранеўскі М. 12. Карніловіч Сл. 5. Карніловіч С. 35. Касьцюкевіч Я 13. Каваленка В. 10. Каваленка Я. 5. Калядка М. 5. Каханоўская І 10. а.Кендыш В. 13. Кіпель В. 12. Кумейша М. 13. Кучура М. 12.

Латушкін М. 64. Лукьянчык А. 10. Лукашэвіч В. 5.

Мароз Г. 10. Мальнач М. 6. Мерляк К. 20. Міраеўскі А. 20. Міцкевіч А. 6.

Набагез В. 100. Нядзьвецкі П. 50.

Орэхва В. 13. Орса —Рамана А. 78.

Палескі А. 12. Палонская Ю. 5. Палюховіч М. 12. Пелеса А. 6. Пятроўскі Я. 15.

Раковіч Я. 10. Радзюк Г. 10. Ракуць В. 42. Рамук В. 18. Русак Ул. 6. Рэпэцкі Г. 6.

Сажыч Я. 5. Семянчук А. 10. Сенька М. 6. Сергеевіч В. 10. Сільвановіч М. 12. Смаршчок М. 50. Стагановіч Л. 6. Стома В. 12. а.Страпко М. 35. Стрэчань А. 5. Субота А. 12.

Тулейка М. 12. Тэдоне Г. 6. 50.

Філістовіч А. 6.50.

Ханенка Я. 10. Хрэноўскі А. 6,50.

Цярпіцкі В. 12.

Чарнецкі А. 12.

Шавейка М. 5. Шчорс М. 35. Шымчык Я. 10. Шчэцька В. 24.

Юхнавец Я. 16.

Ягаўдзік В. 5. Яканюк В. 24. Яцэвіч В. 10.

Царква Жыровіцкае Божае маці ў Кліўлендзе — 4 000.